наша свабода

№2(229) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

9 СТУДЗЕНЯ 2002 году СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

ВЕСТКІ



Ул. ШЛАПАКА

## Планы Нацбанку

Старшыня Нацыянальнага банку Беларусі Пётр Пракаповіч заяўляе, што галоўнай задачай на новы год ён бачыць умацаванне беларускага рубля. Кіраўнік Нацбанку таксама абяцае, што пры канцы 2002 году абменны курс даляра будзе складаць прыблізна 1 860 рублёў.

## Беларускія дыпломы могуць прызнаваць за мяжой

Беларусь далучылася да Канвенцыі аб прызнанні дакументаў аб вышэйшай адукацыі ў Еўропе. Цяпер беларускія дыпломы аб вышэйшай адукацыі могуць прызнаваць за мяжой. Нашыя суайчыннікі атрымаюць магчымасць для адукацыі ды працы ў Еўропе.

## Алімпійцы прайшлі допінгавыя тэсты

Беларуская каманда паспяхова прайшла допінг-кантроль перад Алімпійскімі гульнямі. Нашыя алімпійцы таксама падпісаліся пад абавязаннямі не выкарыстоўваць допінгавых сродкаў падчас Алімпіяды ў Солт-Лейк-Сіці.

## Адна газета на двух

Па выніках падпіскі на перыядычныя выданні на першае паўгоддзе 2002 году на двух беларусаў прыпадае па адным часопісе ці аднэй газеце. Агульны наклад перыёдыкі, на якую вялася падпіска на першыя 6 месяцаў гэтага году, складае 4,8 мільёна асобнікаў.

## Першы музычны канал

1 студзеня ўначы на расійскім тэлеканале ТВ-6 пачаў тэхнічнае вяшчанне беларускі Першы музычны канал. Паўнавартаснае вяшчанне канала распачнецца ў сакавіку. Пакуль што ён будзе трансьлявацца ад 23.00 да 4.00.

## Новыя падаткі

На Міншчыне – новыя падаткі і зборы для юрыдычных асобаў. Уведзены транспартны збор на абнаўленне гарадскога і прыгараднага пасажырскага транспарту – 1,5% ад прыбытку. Збор на развіццё інфраструктуры – 3,5%.

## Беларуская бульба ў Еўропе

Сёлета Беларускі навукова-даследчы інстытут бульбаводства пачне выпрабаванні сваіх новых гатункаў бульбы ў краінах Еўрасаюзу, дзе дужа цікавяцца беларускай селекцыяй.

НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1660

# Задушылі «Голас душы»




Фота Ул. ШЛАПАКА

У нядзелю, 6 студзеня, на каталіцкае свята Трох Каралёў, на першай праграме Беларускага радыё звычайна сотням тысяч слухачоў духоўнай праграмы «Голас душы», якую на працягу васьмі гадоў рыхтаваў і вёў ксёндз-магістр, пробашч мінскага Чырвонага касцёла Уладзіслаў Завальнюк, зноў не было. Не гучала яна і ў нядзелю перад Новым годам, і ў нядзелю перад Нараджэннем Хрыста. Замест беларускамоўнага набажэнства слухачы пачулі танную музычную эстраду. Вось такі «падарунак» ад улады атрымалі беларусы каталіцкага веравызнання напярэдадні калядных святаў. Зроблена гэта нібыта ў адказ на лісты тых радыёспажыўцоў, якім не падабаецца гэтакая духоўная перадача. Між тым яе слухалі літаральна мільёны беларускіх католікаў.

У знак смутку аб гэтым акце дыскрымінацыі напісаныя на алтарнай сцяне касцёла святых Сымона і Алены словы «Голас душы» задрапаваныя чорнай тканінай. На ёй замацаваны шэсць ззяючых сардэчак — сімвал шасці абласцей Беларусі, дзе вернікі слухалі патрэбную ім і цяпер забароненую непаважна да іх веры духоўную радыёперадачу. Гэты знак будзе захоўвацца ў базніцы да таго дня, пакуль улада не скасуе сваю абразлівую забарону на трансляцыю хрысціянскай перадачы «Голас душы».

Падчас святочнай імшы пробашч касцёла Уладзіслаў Завальнюк, тлумачачы пра сэрцы на чорнай драпіроўцы, зазначыў: «Шэсць абласцей Беларусі. Многія людзі маліліся, пamіралі, слухаючы «Голас душы» апошні раз, і праз удзел у набажэнстве атрымоўвалі сілу і дапамогу. І вось — пакуты ўсяго народу ў выніку закрыцця «Голасу душы». Гэта робіць злы дух. І ўсе, хто яму служаць, да гэтага прычыніліся».

Не прыходзіцца сумнявацца, што ажыццяўленне на дзяржаўным радыё такога дзікага рашэння, скіраванага супраць духоўных патрэбаў католікоў Беларусі, а на дадатак прымеркаванага да каталіцкіх Калядаў, ёсць праява наўмыснага распальвання міжканфесійных недаверу і варожасці на Беларусі, дзеянне антыканстытуцыйнае, свядома ці несвядома разлічанае на ператварэнне каталіцкіх вернікаў у грамадзянаў другога гатунку.

**Ганна КВЯТКЕВІЧ**

# Мерапрыемствы супраць тэрору

Праект палажэння аб парадку арганізацыі і правядзення супольных антытэрарыстычных мерапрыемстваў на тэрыторыях дзяржаваў СНД абмяркуюць эксперты на нарадзе, якая пройдзе 9–10 студзеня ў Мінску. Пра гэта «Інтэрфаксу» паведамілі ў выканкаме СНД.

Суразмоўца агенцтва нагадаў, што ў рамках СНД прынятая дамова аб супрацоўніцтве ў барацьбе з тэрарызмам, міждзяржаўная праграма захадаў па барацьбе з міжнародным тэрарызмам і іншымі праявамі экстрэмізму, а таксама створаны Антытэрарыстычны цэнтр (АТЦ).

Разам з тым, на думку суразмоўцы, галоўнай праблемай застаецца «рэалізацыя прынятых рашэнняў і выпрацоўка механізму каардынацыі дзеянняў» у барацьбе з тэрарызмам.

У гэтым звязку ён адзначыў «асаблівую важнасць і пільнасць» прыняцця распрацаванага спецыялістамі АТЦ палажэння аб парадку арганізацыі і правядзення супольных антытэрарыстычных мерапрыемстваў.

Па словах суразмоўцы агенцтва, калі эксперты ўхваляць праект палажэння, ён будзе пададзены на разгляд удзельнікаў чарговага саміту СНД, які пройдзе ў Кішынёве ў канцы траўня сёлета.

**УА «ІНТЭРФАКС»**

# Фінансуюць бюджэтныя хібы

Беларусь атрымала ад Расіі 30 мільёнаў даляраў ЗША ў рамках дзяржаўнага крэдыту. Пра гэта БелаПАНу паведаміў прэс-сакратар міністэрства фінансаў Беларусі Міхаіл Вальковскі.

Паводле ягоных слоў, умовы выдачы крэдыту прадугледжваюць яго пагашэнне праз некалькі гадоў. Працэнты будуць выплачвацца па стаўцы *LIBOR*, плюс маржа ў памеры 0,75% гадавых.

У пераліку на беларускія рублі гэтая сума складае каля 50 мільярдаў. Мінфін збіраецца накіраваць яе на фінансаванне расходаў дзяржаўнага бюджэту Беларусі. Акрамя таго, не выключаецца, што сродкі з гэтага крэдыту могуць быць выдаткаваныя на фінансаванне праграм у рамках Саюзнай дзяржавы.

Агульная сума дзяржаўнага крэдыту, які выдзяляецца Беларусі Расійскай Федэрацыяй, складае 100 мільёнаў даляраў. Першыя 30 мільёнаў даляраў былі атрыманы ў жніўні 2001 году. У 2002 годзе Беларусь разлічвае на атрыманне яшчэ 40 мільёнаў даляраў ЗША.

**Аляксей АРЭШКА**




# Паляванне на «чырвоных дырэктараў»

*Адзіным вынікам абяцанага пасля прэзідэнцкіх выбараў «курсу на лібералізацыю» дагэтуль застаюцца арышты дырэктараў прадпрыемстваў і рынкаў. Найбольш «свежыя» ахвяры на сённяшні дзень – дырэктары Мінскага трактарнага заводу Міхаіл Лявонаў, Гомельскага радыёзаводу Анатоль Кірыкаў і Заднепроўскага рынку ў Магілёве Анатоль Пратасеня.*

Раней мы ўжо паведамлялі, што за краты трапілі член Савету Рэспублікі Нацыянальнага сходу, начальнік Беларускай чыгункі Віктар Рахманько, дырэктар аб'яднання «Атлант» і былы патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты Леанід Калугін, дырэктар стадыёну «Трактар» Васіль Алейнікаў, дырэктар аўтамабільнага рынку «Гандлёвы свет «Кола» Аляксандр Васілеўскі і іншыя.

### За кратамі дырэктар МТЗ

Як паведаміў прэс-цэнтр Пракуратуры Беларусі, 5 студзеня 2002 году была ўзбуджаная крымінальная справа ў дачыненні да дырэктара Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «Мінскі трактарны завод» Міхаіла Лявонава. Яму інкрымінуецца ўдзел у злачынствах, прадугледжаных артыкуламі 166 (частка 2) і 168 КК РБ – гэта злоўжыванне службовым становішчам, якое мела цяжкія наступствы, а таксама халатнасць, якая нанесла шкоду ў асабліва буйных памерах.

Учора дырэктара МТЗ затрымалі па падазрэнні ва ўчыненні пералічаных злачынстваў і змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання. Следчы пракуратуры вынес пастанову аб адхіленні М.Лявонава ад ягонай пасады на перыяд расследавання крымінальнай справы.

Прэс-цэнтр пракуратуры паведаміў таксама, што цяпер праводзяцца дачыненні М.Лявонава і іншых службовых асобаў да іншых злачынстваў.

Афіцыйнае абвінавачанне былому дырэктару МТЗ пакуль не прад'яўлялася.

Тым часам, агенцтва *Reuters* перадало са спасылкай на прадстаўнікоў пракуратуры, што Міхаіл Лявонаў быў затрыманы яшчэ ў панядзелак увечары пры спробе пакінуць Беларусь. Ананімныя пракурорскія крыніцы паведамілі, што дырэктара МТЗ знялі з цягніка «Мінск-Масква» і што пры ім знайшлі падробныя дакументы.

*Заканчэнне на стар.3*

БЮДЖЭТ

## Прадпрымальніцкая дзесяціна

Летась прыватны бізнес прынёс гарадскому бюджэту Магілёва амаль кожны дзесяты рубель даходу, або 25,5 мільярда рублёў. На думку старшыні абласнога тэрытарыяльнага камітэту прадпрымальніцтва і інвестыцый Віктара Красоўскага, такім чынам прадпрымальніцтва прадэманстравала сваю жыццяздольнасць і эфектыўнасць. Пэўныя спадзяванні на якаснае і колькаснае развіццё прыватнага сектару эканомікі спецыялісты звязваюць з пераходам сёлета Магілёўскай вобласці на самафінансаванне.

Дарэчы, зараз на Магілёўшчыне зарэгістраваныя 15 229 прадпрымальнікаў – гэта амаль на 2 тысячы больш, чым на пачатку 2001 году.

**Канстанцін УВАРАЎ**

## Паліва пад кантролем

Брэсцкі аблвыканкам першым у Беларусі прыняў распараджэнне, згодна з якім ездзіць на незаконна набытых гаруча-змазачных матэрыялах стане практычна немагчыма. Называецца гэты дакумент «Аб уліку водпуску гаруча-змазачных матэрыялаў».

У найкарацейшыя тэрміны старшыням гарадскіх і раённых выканкамаў прадпісана азнаёміць з гэтым распараджэннем кіраўнікоў фермерскіх гаспадарак і індывідуальных уладальнікаў трактароў і грузавых аўтамабіляў. Цяпер тыя мусяць абавязкова захоўваць заборныя лісты, накладныя, касавыя чэкі і выпіскі, якія б пацвярджалі факт набыцця ГСМ на законных падставах. Згаданыя плацежныя дакументы павінны выдавацца па першым патрабаванні на ўсіх аўтазапраўках вобласці; іх у любы момант могуць запатрабаваць прадстаўнікі УУС, абласной інспекцыі, дзяржтэхнагляду і падатковых органаў. Каб пазбегнуць папрокаў у адсутнасці аўтазапраўачных станцый паблізу ад вёсак, загадана да 1 сакавіка вырашыць пытанне дастаўкі нафтапрадуктаў у аддаленыя паселішчы.

Распараджэнне прынята «у мэтах узмацнення кантролю за захаваннасцю і выкарыстаннем гаруча-змазачных матэрыялаў у сельскагаспадарчых прадпрыемствах, а таксама фермерскіх гаспадарках». Апошнім часам у Брэсцкай вобласці рэзка абвастрылася праблема крадзяжу ГСМ: іх крадуць з прадуктаправодаў, са складоў, а ў шэрагу гаспадарак вобласці салярку можна купіць у трактарыстаў за самагон. Калі звальняць вінаватых, то калгасы рызыкуюць застацца без трактарыстаў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Прыбытковых гаспадарак мала

Паводле папярэдніх звестак міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, 2001 год завяршылі са стратамі 1 403 сельскагаспадарчых прадпрыемствы сістэмы міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, або 58,9% ад іх агульнай колькасці. Прыбытковых гаспадарак налічылі 978, што на 259 (21%) меней, чым у 2000 годзе.

Найбольшая доля стратных гаспадарак у 2001 годзе зафіксаваная ў Віцебскай вобласці (83,6%), далей ідуць Магілёўская (78), Гомельская (65,3) і Мінская (52,6).

Рэнтабельнасць вытворчасці збожжа зменшылася за год з 65,3 да 30,4%, агароднінны – з 14,7 да 7,6, цукровых буракоў – з 44,8 да 19,5. Страты ад рэалізацыі буйной рагатай жывёлы выраслі з 17,9 да 24,6%, малака – з 16,5 да 20,7%. Рэнтабельная ў 2000 годзе вытворчасць яек (8,7%) стала стратнай (1,1%). Тое ж назіраецца ў вытворчасці птушкі (1,4% рэнтабельнасці ў 2000 годзе і 4% стратнасці ў 2001 годзе) і льнотрасты – лёну, падрыхтаванага для вытворчасці валакна – (22,3% рэнтабельнасці ў 2000 годзе і 7,2% стратнасці ў 2001 годзе).

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

ДАПАМОГА

## Чвэрць беларусаў на ўтрыманні

Сёння пад апекай міністэрства працы і сацыяльнай абароны знаходзяцца каля 2,5 млн. жыхароў Беларусі. Пра гэта паведаміў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Беларусі Уладзімір Локіс.

Паводле яго ных словаў, да гэтай катэгорыі грамадзян адносяцца пенсіянеры, ветэраны, асобы з абмежаванымі магчымасцямі, а таксама дзеці, якія засталіся без апекі бацькоў.

Як паведаміў Локіс, у рэспубліцы працуе каля 80 устаноў сацыяльнай абароны, у прыватнасці, дзіцячыя і псіханеўралагічныя дамы-інтэрнаты, тэрытарыяльныя цэнтры і ведамасныя санаторыі. У 1986 годзе пачала дзейнічаць сістэма абслугоўвання адзінокіх грамадзян і інвалідаў дома. Акрамя таго, у Беларусі створана больш за 30 тэрытарыяльных цэнтраў сацыяльнай дапамогі сям'і і дзецям. Паводле словаў намесніка міністра, у сферы сацыяльнай абароны працуе каля 32 тысяч чалавек. Падрыхтоўка спецыялістаў такога профілю – псіхолагаў і сацыяльных работнікаў – вядзецца на базе Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэту імя М.Танка, а таксама ў філіяле Маскоўскага дзяржаўнага сацыяльнага ўніверсітэту.

**Вольга АСІПЕНКА**

## Услед за Мінскам

У Кобрыне ўсталяваная мабільная станцыя тэхнічнай дыягностыкі аўтамабіляў. Гэта першая такая станцыя ў Брэсцкай вобласці і другая ў рэспубліцы пасля Мінску.

Як паведаміў начальнік ДАІ УУС Брэсцкага аблвыканкаму Уладзімір Надзеін, прапускная магчымасць станцыі – 10 тысяч аўтамабіляў у год. Яна закуплена на грошы, атрыманыя ад страхавання аўтамабіляў. Яе кошт – каля 60 тысяч амерыканскіх даляраў. Станцыя зроблена ў Расіі на супольным расійска-нямецкім прадпрыемстве. Праца абсталявання была прадэманстравана супрацоўнікам ДАІ Беларусі ў Санкт-Пецярбургу.

**БелаПАН**

## Пра пажар паведаміць сігналізацыя

У Беларусі пачынаецца шырокая кампанія па кантролі за станам электраправодкі і печаў, а таксама па абсталяванні жылых дамоў і кватэр аўтаномнымі пажарнымі гукавымі сігналізатарамі. Праект рэалізуецца пры фінансавай падтрымцы Агенцтва гуманітарнага ўзаемадзеяння і развіцця міністэрства замежных спраў Швейцарыі.

Як паведаміў БелаПАНу першы намеснік міністра па надзвычайных сітуацыях Беларусі Энвер Барыеў, для рэалізацыі гэтай праграмы ў 2001 годзе выдзелілі 100 тысяч даляраў ЗША. Чакаецца, што ў першым паўгоддзі гэтага году са Швейцарыі паступіць яшчэ 200 тысяч даляраў. У якасці эксперыментальнай пляцоўкі для рэалізацыі праекту выбраны Барысаўскі раён Мінскай вобласці. У першую чаргу пачнуць з памяшканняў, дзе пражываюць старыя, інваліды і шматдзетныя сем'і. Пры рэалізацыі праекту, са словаў Барыева, будуць прыцягвацца сродкі выканкамаў, сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, а таксама выкарыстоўвацца «намаганні грамадскасці».

Плануецца потым распаўсюдзіць гэтую праграму на ўсе раёны Беларусі. У выніку, адзначыў першы намеснік міністра, павінна прыкметна скарaціцца колькасць чалавечых ахвяр на пажарах. Так, толькі забеспячэнне жылля пажарнымі гукавымі сігналізатарамі дазволіць у сямі выпадках з дзесяці прадухіліць гібель людзей. Гэта вельмі актуальна для Беларусі, дзе за мінулы год колькасць чалавечых ахвяр пры пажарах вырасла прыкладна на 10%.

**Марат ГАРАВЫ**

ЭКАЛОГІЯ

## 10 тон атруты ў магілёўскім небе

Летась у атмасферу Магілёва было выкінута каля 10 тысяч тон шкодных рэчываў. Пра гэта паведаміў начальнік гарадской інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Анатоль Раманаў. Разам з тым, заявіў ён, сярэднегадавая канцэнтрацыя забруджвальных рэчываў у абласным цэнтры была ў межах нормы; нармальнай лічыцца і якасць вады.

У паветры Магілёва былі выяўлены больш за 180 шкодных рэчываў, сярод якіх – фармальдэгід, серавадарод і вокіс вугляроду. Асноўнымі крыніцамі забруджвання паветра экалагі называюць аўтамабільны транспарт, прадпрыемствы цеплаэнергетыкі і некаторыя прамысловыя прадпрыемствы.

**Канстанцін УВАРАЎ**

ЛАД

## Новая тэрытарыяльная адзінка

У адну тэрытарыяльную адзінку будуць аб'яднаныя некаторыя раёны і гарады Беларусі абласнога падпарадкавання, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр. Адпаведны ўказ, як паведамляюць афіцыйныя крыніцы, падпісаў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

У адпаведнасці з дакументам, у адну адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку аб'ядноўваюцца Жлобінскі раён і горад Жлобін, Кобрынскі раён і горад Кобрын, Рэчыцкі раён і горад Рэчыца, Светлагорскі раён і горад Светлагорск, Слонімскі раён і горад Слонім. На працягу месяца Гомельскі, Брэсцкі і Гродзенскі аблвыканкамы павінны вызначыць структуру і штатную колькасць выканаўчых камітэтаў новых адміністрацыйных адзінак.

**Алег САКАЛОЎ**

## Пацярпелі ад маразоў

З пачатку гэтай зімы ад пераахаладжэння ў Брэсцкай вобласці загінулі 15 чалавек. 16 грамадзян з абмаражэннямі розных ступеняў знаходзяцца на лячэнні ў апёкавым аддзяленні абласной бальніцы.

Найбольшая колькасць ахвяр зарэгістраваная ў Баранавічах, дзе замерзлі сем чалавек. У Брэсце, Століне і Лунінцы зафіксавана па дзве смерці; у Івацэвічах і Пінску загінулі па адным чалавеку. Што тычыцца шпіталізаваных, то пяці з 15 не ўдалося пазбегнуць хірургічнага ўмяшання: некаторым ампутавалі пальцы рук і ступняў, некаму – ногі на ўзроўні галёнак. Як сцвярджаюць урачы, з абмаражэннямі трапляюць у асноўным нецвярозыя людзі, якія не заўважаюць анямення канечнасцей.

Паводле прагнозаў Брэсцкага абласнога гідраметцэнтру, чакаецца, што пасля Калядаў тэмпература паветра апусціцца да мінус 25 градусаў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Незаконнае відэа

Упраўленне Следчага камітэту МУС Беларусі па Цэнтральным раёне горада Магілёва ўзбудзіла крымінальную справу па артыкуле 201, частка 1 у дачыненні да індывідуальнага прадпрымальніка, які падазраецца ў незаконным тыражыраванні аўдыё- і відэапрадукцыі. Паводле папярэдняй інфармацыі, ён без згоды праваўладальнікаў тыражаваў і распаўсюджваў відэа- і аўдыёкасеты і кампакт-дыскі.

Пры правядзенні аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў у Магілёве была выяўлена студыя па вытворчасці пірацкай аўдыё- і відэапрадукцыі, якая знаходзілася ў кватэры аднаго з жылых дамоў. Канфіскавана 19 відэамагнітафонаў, 10 касетных дэк, 2 822 відэакасеты з запісам, 3 340 чыстых відэакасет, 5 379 аўдыёкасет, 3 737 кампакт-дыскаў, 4 380 упаковачных буклетаў для відэакасет і 4 877 укладак у аўдыёкасеты. Гэта першая ў рэспубліцы крымінальная справа па факце незаконнай вытворчасці аўдыё- і відэапрадукцыі. Раней «піратаў» прыцягвалі толькі да адміністрацыйнай адказнасці.

**Канстанцін УВАРАЎ**

МЯЖА

## У лідэрах – нелегалы з Малдовы і В'етнама

У 2001 годзе брэсцкія пагранічнікі затрымалі 375 парушальнікаў мяжы і 158 нелегальных мігрантаў, што амаль у 2 разы больш, чым у 2000 годзе. Найчасцей нелегальна спрабавалі перасекчы мяжу жыхары Малдовы. Іх было затрымана 65 чалавек (для параўнання: у 1999 годзе – 5 чалавек, у 2000 – 37 чалавек). Грамадзян В'етнама было затрымана 40 чалавек. Жыхары якраз гэтай краіны часцей за ўсё спрабавалі перасекчы граніцу групамі.

Усіх нелегальных мігрантаў, затрыманых у Брэсце, у самы кароткі тэрмін адпраўляюць у дыпламатычныя прадстаўніцтвы іх краін, бо, паводле інфармацыі Брэсцкай паграгрупы, утрыманне аднаго затрыманага мігранта абыходзіцца дзяржаве ў 25 даляраў у суткі.

Як стала вядома БелаПАНу, апошнім часам шмат праблем на мяжы ўзнікае і ў людзей, якія маюць візы, правільна афармленыя дакументы і хочуць выехаць за мяжу легальна. Польскія пагранічнікі нярэдка без тлумачэння прычын адмаўляюць ва ўездзе ў краіну так званым асобам каўказкай нацыянальнасці і грамадзянам азіяцкіх дзяржаў.

Брэсцкія пагранічнікі дапускаюць, што ў новым годзе колькасць нелегальных мігрантаў павялічыцца. Яны звязваюць гэта з вайной у Афганістане і цяжкой эканамічнай сітуацыяй у сярэднеазіяцкіх краінах.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Парушэнні мяжы

Па звестках Службы аховы дзяржаўнай мяжы Літвы, у 2001 годзе літоўскія пагранічнікі зафіксавалі 998 парушэнняў і затрымалі 1 354 парушальнікаў, паведамляе інфармацыйнае агенцтва «Расбалт». Больш як палова ўсіх парушэнняў – 544 – прыпала на ўчастак мяжы з Беларуссю, 164 – з Польшчай, 150 – з Літвой, 43 – з Расіяй.

60 працэнтаў усіх парушальнікаў былі затрыманы на мяркаванай знешняй мяжы Еўрапейскага Саюзу – граніцы Літвы з Беларуссю і Расіяй. З іх 750 парушальнікаў – на граніцы з Беларуссю і 66 – на граніцы з Расіяй.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

## Затрымалі сутэнёра

Супрацоўнікамі аддзелу нораваў і незаконнага абароту наркотыкаў упраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкаму па падазрэнні ў сутэнёрстве затрыманы непрацуючы 36-гадовы мужчына. Яго затрымалі на пераходзе «Новая Гута» на беларуска-ўкраінскай мяжы пры спробе вывезці з Беларусі для заняткаў прастытуцыяй паўналетнюю дзяўчыну.

Як паведаміў БелаПАНу начальнік аддзелу нораваў УУС Леанід Адзіночкін, затрыманы дзеля карысліных мэтаў шляхам падману схіліў дзяўчыну да прастытуцыі і спрабаваў праз тэрыторыю Украіны даставіць яе ў Ізраіль. Супраць яго ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 171 Крымінальнага кодэксу Беларусі – «Утрыманне прытону, зводніцтва і сутэнёрства».

**Ірына ШАНЦАВА**

ВЫДАТНАСЦІ





Фота Ул.ШЛАПАКА

Візітоўка гораду – гмах на прывакзальнай плошчы Мінску – пазбаўлены «архітэктурных лішкаў» у 1960-х і пасля нядаўняй рэканструкцыі

# Зімовы прызыў





Фота Ул. ШЛАПАКА

Учора са зборных пунктаў абласных ваенных камісарыятаў Беларусі пачалася адпраўка ў войскі маладога папаўнення — грамадзян, прызваных на тэрміновую ваенную службу ў канцы 2001— пачатку 2002 году. Як паведамілі БелаПАНу ва ўпраўленні інфармацыі і выхаваўчай работы міністэрства абароны Беларусі, усяго на ўкамплектаванне злучэнняў і часцей Узброеных Сіл і іншых вайсковых фармаванняў краіны будзе накіравана каля 18 тысяч чалавек, з іх у беларускую армію — каля 12 тысяч.

Па вопыту апошніх гадоў, часці УС маюць быць укамплектаваны маладым папаўненнем да канца студзеня.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

# «Я на сабе адчула дыскрымінацыю»

*12 студзеня старшыня выканкаму Рады Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Валянціна Палевікова падасць заяву аб сыходзе з сваёй пасады. Яна збіраецца сысці ў палітыку і шчыльна заняцца раскруткай Беларускай партыі «Надзея».*



Фота IREX/ProMedia

– 12 студзеня я выходжу з кароткатэрміновага адпачынку і буду падаваць заяву аб сыходзе «па ўласным жаданні». Як ні сумна, але я на нейкі час сыду з прафсаюзаў, якім аддала значную частку свайго жыцця.

Па ўсім свеце прафсаюзы звязаныя з палітычнымі партыямі: або ствараюць уласныя сацыял-дэмакратычныя партыі, або іх падтрымліваюць. У нас цяпер у аснову пакладзены тэзіс, што прафсаюзы аніяк не павінны зпаляміць сябе палітыкай; прафсаюзы мусяць уплываць на яе, але звонку. Мне гэта незразумела, таму я і прымаю рашэнне – сысці.

Вельмі балюча, калі прафсаюзы будуць проста пагаджацца з уладаю і не будуць настойлівымі, цвёрдымі ў абароне сваёй пазіцыі, калі не будуць сапраўднымі прафсаюзамі. А каб гэта адбылося, трэба карэнным чынам мяняць сітуацыю ў Беларусі ўвогуле. Сацыяльны партнёр з улады – ніякі, яна не выконвае ўласных пастановаў, абяцанняў.

***– Ствараецца ўражанне, што вы не спрацаваліся разам з новым лідэрам ФПБ – Францам Вітко...***

– Я б не хацела рабіць такіх высноваў. Мяне браў на працу Уладзімір Ганчарык, і ў мае абавязкі якраз і ўваходзіла сувязь з палітычнымі партыямі, жаночымі арганізацыямі і з прафсаюзамі, якія не ўваходзілі ў Федэрацыю.

З выступу новага лідэра я зразумела, што мой напрамак працы стане другарадным... Я ні ў якім разе не сыходжу ад Франца Вітко, але я прыйшла на працу да Уладзіміра Ганчарыка, і з ягоным сыходам мой актыўны ўдзел у ФПБ скончыўся.

***– Значыць, як Вы і абяцалі, пасля сыходу з Федэрацыі Вы пераходзіце ў партыю жанчын «Надзея», зоймецеся «выключна палітыкай» і паспрабуеце нагнаць тое, што было страчана за час сумяшчэння дзвюх пасадаў?***

– Уласна кажучы, я ўзначальваю дзве арганізацыі: партыю «Надзея» і сацыяльна-адукацыйны цэнтр «Надзея». Я буду актыўна працаваць у абедзвюх арганізацыях, бо ў Беларусі ёсць поле для сцвярджэння жаночага руху. Падчас прэзідэнцкіх выбараў я на сабе адчула дыскрымінацыю жанчын.

З моманту стварэння ў 1994 годзе я ўжо восем гадоў з'яўляюся нязменным лідэрам «Надзеі». Я не лічыла і цяпер не лічу сябе вялікім палітыкам – я толькі вучуся палітыцы.

**Гутарыў Рыгор БУЯН**

# Паляванне на «чырвоных дырэктараў»

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Вядома, што прадстаўнікі Пракуратуры Беларусі, камітэта дзяржаўнага кантролю, камітэта дзяржаўнай бяспекі, міністэрства ўнутраных справаў і міністэрства фінансаў на працягу двух апошніх месяцаў праводзілі буйнамаштабную праверку на тэрыторыі МТЗ. Падчас яе былі ўзбуджаны некалькі крымінальных справаў, але да ўчорашняга дня ніякіх афіцыйных абвінавачванняў супраць Міхаіла Лявонава не высоўвалася.

На самім МТЗ да ўчорашняга вечара сітуацыю з затрыманнем генеральнага дырэктара ніяк не каментавалі. Сакратарка паведаміла нам, што яшчэ з канца мінулага году Міхаіл Лявонаў знаходзіцца на бюлетэні, і часова выконвае ягоныя абавязкі тэхнічны дырэктар МТЗ Леанід Крупец. Сам Л.Крупец толькі патвердзіў нам гэтую інфармацыю.

Тым часам, як перадае «Інтэрфакс» са спасылкай на «крыніцы на прадпрыемстве», учора ў кабінеце М.Лявонава прайшоўператрус. Вобшук разам з выняццем дакументаў адбыўся і ў дырэктарскай прыёмнай.

Ні на МТЗ, ні ў Пракуратуры Беларусі не здолелі пацвердзіць інфармацыю *Reuters* аб зніклі М.Лявонава з падробленымі дакументамі з цягніка «Мінск-Масква».

Агенцтва БелаПАН распаўсюдзіла біяграфічную даведку пра дырэктара МТЗ. Міхаіл Лявонаў нарадзіўся 5 траўня 1953 году ў вёсцы Шамаўка Круглянскага раёна Магілёўскай вобласці. У 1982 годзе скончыў Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут, у 1993 годзе – Акадэмію кіравання пры Савеце міністраў Рэспублікі Беларусь. З 1995 году М.Лявонаў – генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання «Мінскі трактарны завод».

### Арыштавалі дырэктара радыёзаводу...

Супрацоўнікі Гомельскага ўпраўлення следчага камітэту пры МУС Беларусі з санкцыі пракурора арыштавалі дырэктара радыёзаводу Анатоля Кірыкава. Ён змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання, што на вуліцы Міжгародняй.

Крымінальная справа супраць дырэктара была ўзбуджана 4 студзеня г.г. на падставе артыкулу 424, часткі 3 Крымінальнага кодэксу РБ – злоўжыванне службовых паўнамоцтвамі, якія нанеслі шкоду ў буйных памерах.

Як заявіў начальнік следчага ўпраўлення Мікалай Крукоўскі, абвінавачванне дырэктару радыёзаводу будзе прад'яўлена ў бліжэйшыя дні.

Паводле вынікаў праверкі фінансава-гаспадарчай дзейнасці, дырэктар Кірыкаў нібыта меў дачыненне да заключэння кантракту на пастаўку прадукцыі, у выніку чаго завод панёс страты больш як на 80



Фота IREX/ProMedia

● Міхаіл Лявонаў

мільёнаў рублёў.

Гомельскі радыёзавод – адно з самых нестабільных прадпрыемстваў рэгіёну. Крэдытныя даўгі прадпрыемства дасягнулі 734 мільёны беларускіх рублёў.

Перад Новым годам радыёзаводу быў выдадзены чарговы банкаўскі крэдыт на разлікі з калектывам па заробку за асеннія месяцы 2001 году.

### ...і дырэктара рынку

Супрацоўнікамі ўпраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю УУС Магілёўскага аблвыканкаму затрыманы дырэктар унітарнага гандлёва-закупачнага прадпрыемства «Кааператыўны нарыхтоўчы гандаль» Магілёўскага аблспажыўсаюза, дырэктар Задняпроўскага рынку Анатоль Пратасеня. Ён падазраецца ў атрыманні буйнога хабару.

Паводле папярэдняй інфармацыі, у момант затрымання, якое адбылося 29 снежня, у дырэктара аднаго з найбуйнейшых рынкаў абласнога цэнтру была знойдзена 1 тысяча доляраў ЗША і яшчэ 300 доляраў у пасрэдніка. Акрамя гэтага, буйная сума грошай была выяўлена ў кватэры Пратасені падчас вобыску.

На працягу апошніх некалькіх гадоў у праваахоўныя органы паступала шмат скаргаў на дзейнасць кіраўніцтва Задняпроўскага рынку, у тым ліку і сігналы аб тым, што месцы на рынку немагчыма атрымаць без хабару. Паводле апаратыўнай інфармацыі, сума сярэдняга хабару складала 1.500 доляраў ЗША. Мяркуецца, што грошы перадаваліся кіраўніцтву рынку праз пасрэдніка.

За некалькі дзён, што прайшлі з моманту затрымання дырэктара рынку, у міліцыю звярнуліся ўжо многія з тых, хто даваў хабар за прадастаўленне гандлёвага месца. Гэта тлумачыцца тым, што па новаму Крымінальнаму кодэксу чалавек, які добраахвотна заявіў пра хабар або вымагальніцтва сумы грошай, не толькі вызваляецца ад крымінальнай адказнасці, але і можа па судовому іску атрымаць кампенсацыю.

Анатоль Пратасеня арыштаваны, але адмаўляецца прызнаць сваю віну. Узбуджана крымінальная справа, вядзецца следства.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**
**Анатоль ІВАНОЎСКІ**
**Канстанцін УВАРАЎ**

# Праваслаўны атэіст пра жывыя мошчы Савецкага Саюзу

Беларуская дзяржава высока ацэньвае ролю праваслаўнай царквы, якая спрыяе ўмацаванню духоўных каштоўнасцяў і робіць вялікі ўнёсак у стварэнне адзінай духоўнай прасторы.

Аб гэтым заявіў Аляксандр Лукашэнка ў панядзелак, калі прысутнічаў на святочнай багаслужбе з нагоды свята Нараджэння Хрыстовага ў галоўным праваслаўным храме краіны – Свята-Духавым кафедральным саборы ў Мінску.

Як сказаў А.Лукашэнка, праваслаўе – гэта «тое моцнае і жывое, што не ўдалося зламаць пасля развалу Савецкага Саюзу». Ён таксама адзначыў, што праваслаўная царква спрыяе аб'яднанню народаў на постсавецкай прасторы.

У сувязі з гэтым А.Лукашэнка высока ацэньвае заслугі патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II, які заўсёды «жаданы госць на беларускай зямлі».

А.Лукашэнка падкрэсліў, што калядныя дні – «самыя светлыя і добрыя, яны адраджаюць чалавечыя сілы і абвастраюць здольнасць глыбока адчуваць пакуты бліжняга».

Цярпенне і дабрыня – «цудоўныя якасці, пра якія згадваюць у дзень Нараджэння Хрыстовага і на якіх грунтуецца мараль беларускага народу», – падкрэсліў А.Лукашэнка. Ён назваў гэтыя прынцыпы «ядром нацыянальнай ідэі». І дадаў, што ўсе святыя запаведзі сугучныя «нашым памкненням і ідэям».

**УА «ІНТЭРФАКС»**

**ПЕРАДРУК**

# Еўрапейскі склад зброі для тэрарызму

Краіна, якая патрабуе найбольшай у Еўропе ўвагі з прычыны падтрымкі ёю тэрарыстычных груповак і краінаў-ізгояў, застаецца па-за ўвагай. Гэтая недэмакратычная краіна, дзе няма закону, – Беларусь, якой кіруе Аляксандр Лукашэнка.

Няма сумневу – ніводнаму кіраўніку дзяржавы ў свеце верасьнёўскія тэрарыстычныя акты не прынеслі столькі карысці, як Лукашэнку, апошняму дыктатару Еўропы, чыё галоўнае жаданне – зноў аб'яднаць Савецкі Саюз. Як толькі ў свеце пачалі ўзнімацца пратэсты і асуджэнне Лукашэнкі за фальсіфікацыю вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 9 верасня, трагічныя падзеі, што адбыліся двума днямі пазней, адцягнулі ўвагу Вашынгтону ад гэтай малавядомай і адсталай краіны.

Вашынгтону трэба асэнсаваць, што Беларусь спакойна выступае за спінаю *NATO* адным з вядучых пастаўшчыкоў смяротнага вайсковага рыштунку ісламскім радыкалам. Атрымальнікі зброі – тэрарысты і экстрэмісцкія групоўкі на Блізкім Усходзе, Балканах і ў Цэнтральнай Азіі.

У 1994 годзе, калі Лукашэнка толькі стаў прэзідэнтам, Беларусь прадала аўтаматы, а таксама танкі і БМП у Таджыкістан. Гэтая вайсковая тэхніка хутка трапіла ў рукі бакоў, што змагаліся ў суседнім Афганістане, а таксама да ісламістаў, якія прагнулі скінуць урад у Таджыкістане. Па ірогіі лёсу, якраз у гэтай краіне «старшы брат» Беларусі – Расія – трымае тысячы жаўнераў, каб абараніць Цэнтральную Азію і сваю ўласную тэрыторыю ад ісламскай экспансіі.

Шмат якія лукашэнкаўскія збройныя здзелкі ішлі такім самым шляхам: зброя, прададзеная Беларуссю, «збіваецца» з кірунку, і замест пазначанай краіныатрымальніка трапляе да праісламскіх экстрэмісцкіх груповак або ў дзяржаву, на пастаўкі зброі ў якую накладзена эмбарга ААН; тым часам афіцыйныя асобы з беларускага ўраду робяць выгляд, што не заўважаюць гэтых трансакцыяў.

Вядома, гэта вельмі прыкра, што на беларускай зброі ляжыць адказнасць за працяг грамадзянскіх войнаў і ўнутраной барацьбы ў такіх краінах, як Таджыкістан, Ангола і Алжыр. Аднак значна болей непакоіць тое, што Судан -- краіна, дзе доўга жыў Асама бін Ладэн і якая лічыцца прытулкам для тэрарыстаў, – атрымаў ад Беларусі такую вырабаваную і якасную тэхніку, як танкі Т-55 і баявыя верталёты Мі-24. Зброя, што адпраўляецца з Беларусі ў Судан, або трапляе ў рукі тэрарыстаў, або выкарыстоўваецца ў грамадзянскай вайне, цягам якой ужо загінула больш за 2 мільёны чалавек.

Спробы Лукашэнкі гандляваць зброяй, каб зарабіць такія патрэбныя для ягонай «абложанай» эканомікі грошы, як выглядае, не маюць межаў. Для краіны, дзе жыве ўсяго 10 мільёнаў чалавек, вельмі прыкра, што яна з году ў год уваходзіць у дзесятку краінаў – найбуйнейшых экспарцёраў зброі. Каб ацаніць, колькі ўсяго вайсковай тэхнікі, якая засталася Беларусі ў спадчыну ад Савецкага Саюзу, мае ў сваім распараджэнні Лукашэнка, разгледзім наступны факт. Беларуская армія мае 1 700 баявых танкаў Т-72. Польшча, новы член *NATO*, краіна з наймацнейшай арміяй у Цэнтральнай Еўропе і з насельніцтвам у чатыры разы большым за беларускае, мае іх толькі 900.

Нягледзячы на шматлікія Лукашэнкавы абвержанні, Беларусь цягам першага часу з'яўляецца ключавым партнёрам Садама Хусейна, які намагаецца перабудаваць і мадэрнізаваць іракскія супрацьпаветраныя сілы. Беларусь парушыла міжнародные санкі адаўства, сакрэтным чынам паставіўшы Багдаду запчасткі да зенітных установак *SA-3*, а таксама паслаўшы ў Ірак тэхнічных спецыялістаў. Улічваючы, што Ірак неадназова спрабаваў збіць амерыканскія і брытанскія самалёты, што патрулююць зону, у якой, паводле рашэння ААН, усе палёты забароненыя, – толькі ў мінулым годзе было зафіксавана больш за 420 такіх спробаў, – патаемнае беларуска-іракскае вайсковае супрацоўніцтва падаецца небяспечным, і ў заходніх сталіцах мусяць ужо прагучаць трывожныя званочкі.

Былы беларускі міністр абароны Павел Казлоўскі нядаўна падсумаваў вынікі супрацоўніцтва Беларусі з Іракам і іншымі краінамі-ізгоямі, сказаўшы: «Я ведаю, што беларускі ўрад не мае маральных прынцыпаў і можа прадаваць зброю гэтым краінам [такім, як Ірак], нават калі існуе эмбарга. Гэта крымінальная палітыка беларускага кіраўніцтва».

Энергічны і аўтарытарны, Лукашэнка адчувае, што ў яго развязаныя рукі для продажу зброі краінам і групоўкам, якія непрыязна ставяцца да краінаў Захаду, бо Еўрапейскі Саюз і Злучаныя Штаты аніяк не прызнаюць яго за легітымнага кіраўніка дзяржавы. Пагрозы эканамічных санкцыяў, агучаныя ЗША, або іншыя дыпламатычныя «штучкі» малаэфектыўныя, бо краіна апынулася ўжо ў такой ізаляцыі, што канкураваць з ёй у гэтым мала хто можа.

Беларуская эканоміка застаецца на плыву толькі дзякуючы танным энерганосьбітам, якімі яе субсідуе Расія. Расія – адзіная краіна, якая мае рычагі эканамічнага і палітычнага ўплыву на Беларусь, і Вашынгтон мусіць выкарыстаць свае новыя стасункі з Масквой і падахвоціць расіянаў да ціску на Беларусь, каб прымусіць яе спыніць патаемныя продажы зброі краінам-ізгоям і тэрарыстычным групоўкам.

**Марк ЛЕНЦЫ, *The Washington Post***

# Еўрапейскі Саюз – Вавілонская вежа ці Таўэр?

Анна Марыя Кампаграндэ так больш не можа – хоціць з яе. Летась яна, італьянка, «еўракратка», асмелілася напісаць прэзідэнту Камісіі ў Брусэлі, Рамана Продзі, заклікаючы пакласці канец «няспыннай і задушлівай прапагандзе англійскай мовы», якая, на яе думку, захапіла еўрапейскія грамадскія інстытуты. «Нават у ААН, дзе афіцыйныя мовы строга размеркаваныя, англійская мова не мае такой перавагі», — дадае яна. Еўрапейскі Саюз – што гэта: Вавілонская вежа ці, можа, Таўэр? Нявольна пацвярджаючы двухсэнсоўнасць сітуацыі, Віўен Рэдынг, еўрапейскі камісар па Адукацыі і Культуры, запэўнівае, што «нават у выпадку пашырэння Еўропы кожная дзяржава мае права на уласную мову». Але адначасна радзіць грамадзянам Саюзу «ведаць прынамсі яшчэ дзве мовы: англійскую і мову суседняе дзяржавы».

Даследаванне, праведзенае ўва ўсіх краінах-сябрах ЕС, паказвае, што першае месца сярод замежных моваў, на якіх гавораць у 15 краінах, належыць англійскай (41% неангламоўных еўрапейцаў гавораць на ёй), далёка адстаюць – французская (19%), нямецкая (10%), іспанская (7%), італьянская (3%). У той жа час 47% еўрапейцаў гавораць толькі на сваёй роднай мове. Фактычна англійская мова выкарыстоўваецца як родная мова альбо як замежная 56% насельніцтва ЕС, супраць 35% для французскае і 33% для нямецкае.

Уступ новых 10 краін (8 дзяржаваў цэнтральнай і ўсходняй Еўропы, потым Кіпр і Мальта), тэарэтычна запланаваны на 2004 год, павялічыць колькасць афіцыйных моваў з 11 да 21. Адгэтуль і надалей еўрапейскія інстытуты мусяць мець гэта на ўвазе. Сёння ў іх працуюць 3 000 пісьмовых перакладчыкаў, якія апрацоўваюць за год 1,2 млн. старонак – гэта вежа ў 100 метраў вышыні – і 820 перакладчыкаў вусных. Сусветны рэкорд. Агульны кошт – 686 мільёнаў еўра штогод. Увод у абарачэнне кожнай новай мовы патрабуе 40 дадатковых перакладчыкаў.

У Еўрапейскім парламенце ставяць на мэце «інтэгральнае шматмоўе». Відавочна, кожная мова можа быць працавана. Гэта запатрабуе набору яшчэ 830 супрацоўнікаў, а дадатковыя выдаткі складуць 81 мільён еўра, што ўдвая перавысіць цяперашні бюджэт.

У Парламенце ў Страсбургу, дзе кожны дэпутат мусіць мець права выступаць, слухаць, пісаць і чытаць дакументы на сваёй роднай мове, перакладчыкаў чакаюць шчаслівыя часы... Яны «балансуюць на дроце паміж *замала* і *замнога*, каб не падмануць чаканняў дэпутатаў: італьянцаў, якія пажадаюць знайсці ў французскай мове практычна дасканалую кальку іхнае рымскае прозы; французаў, якія не церпяць і ценю англіцызму; партугальцаў, якіх раздражняе, калі ў кожных трох словах ім не трапіцца мужчынскі род; іспанцаў, якія жывуць неалагізмамі».

**«L'Express» (Францыя)**

# Азбука для пальцаў

6 студзеня спаўняецца 150 гадоў з дня смерці Луі Брайля, які прыдумаў пісьмо для сляпых. Ён распрацаваў сваю славутую азбуку, калі быў зусім маладым чалавекам, а памёр яшчэ да таго, як ягоная сістэма ўвайшла ў шырокі ўжытак. Але пакінутая ім спадчына змяніла жыцці мільёнаў сляпых па ўсім свеце.



Калі Брайль прыдумаў сваю сістэму, наўрад ці ён мог прадбачыць, што ёю будуць карыстацца амаль ува ўсіх краінах свету. Выпадкова аслепшы ў веку чатырох гадоў ад няшчаснага выпадку ў майстэрні свайго бацькі, Брайль, змешчаны ў школу для сляпых у Парыжы, распрацаваў сістэму чаргавання пукатых кропак.

«У аснову сваёй азбукі Брайль паклаў сістэму пісьма, якую французы ў XIX ст. ужывалі ў ваенны час. У ёй увесь тэкст дзеліцца на ячэйкі, у якіх знаходзіцца па вертыкалі тры кропкі, а па гарызанталі – дзве. Кожнаму сімвалу адпавядае ячэйка з адмысловым размяшчаннем кропак», – распавядае старшыня Брытанскай камісіі па Брайлі Біл Пул.

«Усяго ў адной ячэйцы можна паказаць 63 сімвалы. Апрача таго, ячэйка можа быць і пустою. Кожная выява адпавядае аднаму сімвалу або адной літары. Паколькі ў некаторых тэкстах сустракаюцца сімвалы з розных абласцей, адна камбінацыя кропак у ячэйцы мае паводле азбукі Брайля адно значэнне па-французску, другое, скажам, па-арабску, а трэцяе – у матэматычнай мове», – тлумачыць Пул.

Калі ў 1852 годзе 43-гадовы Брайль памёр ад сухотаў, здавалася, што ягоны твор сыдзе разам з ім. Але чацвёра сляпых на чале з доктарам Томасам Арміцаджам зразумелі ўсю важнасць новай сістэмы і заснавалі таварыства, якое потым стала Каралеўскім нацыянальным інстытутам праблемаў сляпых – найбуйнейшай у Вялікабрытаніі арганізацыяй па праблемах людзей з абмежаваным зрокам і найбуйнейшым выдаўцом дапаможнікаў па азбуцы Брайля ў Еўропе.

Сістэма Брайля дазваляе не толькі чытаць, але і пісаць. Стварэнне такой сістэмы дазволіла сляпым па ўсім свеце атрымліваць прафесійную падрыхтоўку і працу, а таксама вальней кантактаваць з людзьмі.

50 гадоў назад Луі Брайль нарэшце атрымаў прызнанне ў Францыі. У 1952 годзе ягоны прах быў перанесены ў Парыж і пахаваны ў Пантэоне побач з другімі нацыянальнымі героямі. Новыя тэхналогіі, мяркуючы па ўсім, будуць спрыяць толькі распаўсюджванню азбукі Брайля. Другой сістэмы, якая магла б замяніць яе, пакуль няма.

**КАТАСТРОФЫ**



ЗША, штат Фларыда. 15-гадовы хлопчык наўмысна ўвагнаў самалёт у высотны будынак банку

# Еўропа перамагае

**Рудзі ДОРНБУШ,**
**прафесар эканомікі Масачусецкага тэхналагічнага інстытуту**

*У паветры лунае патрэба перагляду думкі пра амерыканскі эканамічны цуд. Бо цяпер здаецца: з таго, што звалася амерыканскім эканамічным цудам 1990-х гадоў, шмат чаго ніколі і не было. Прынамсі, што да прадукцыйнасці працы, наперадзе ідзе Еўропа.*

**ЭКАНАМІЧНЫ РОСТ 1990-98 (% У ГОД)**

| | Рэальны ВУП | ВУП на аднаго працаўніка | ВУП на адпрацаваную гадзіну |
|---|---|---|---|
| ЗША | 3,0 | 1,7 | 1,5 |
| Нямеччына | 1,4 | 2,1 | 2,5 |
| Францыя | 1,4 | 1,3 | 1,8 |
| Вялікабрытанія | 2,0 | 2,0 | 1,9 |

Гэта робіцца відавочным, калі прааналізаваць агульнапрынятыя паказчык выпрацоўкі на аднаго працаўніка. Малюнак яшчэ пагоршыцца, калі мы пабачым, што ў Еўропе на кожнага чалавека прыпадае нашмат менш працоўных гадзін, чым у Амерыцы. Варта зірнуць на паказчык выпрацоўкі за адну гадзіну, як Амерыка памяняецца месцамі з Еўропай. На першым месцы раптам апынаецца Нямеччына. Немцы робяць няшмат, але калі ўжо робяць, то іх прадукцыйнасць не мае сабе роўных, і з кожным днём іх справы ідуць усё лепш і лепш.

Як відаць, Еўропа знайшла ўдалае выйсце: рабіць мала, але добра. І праўда, у Еўропе вышэйшы быў не толькі рост прадукцыйнасці працы, але і абсалютныя паказчыкі прадукцыйнасці. У Заходняй Нямеччыне альбо ў Францыі за гадзіну працы выраблялі (у абсалютных лічбах у пераліку на даляры) больш, чым у ЗША. Гэтак жа сама і ў Італіі.

Як нам інтэрпрэтаваць гэтыя факты? Адзін з варыянтаў такі: еўрапейскі рынак працы становіць сабою вялікую праблему. Ён занадта зарэгуляваны і нягнуткі і, на дадатак да гэтых дзвюх праблемаў-блізнятаў, вельмі дарагі нават пры цяперашнім нізкім узроўні еўра. Таму не дзіва, што еўрапейскія фірмы пазбягаюць працаёмкіх вытворчасцяў і аперуюць у капіталаёмкай сферы.

Высокая канцэнтрацыя капіталу ў разліку на аднаго работніка, усе астатнія паказчыкі аднолькавыя, а праца высокапрадукцыйная, – вось што такое еўрапейская мадэль. Больш за тое: кампаніі, звязаныя з працаёмкімі работамі (г. зн. тыя, дзе выкарыстоўваецца нізкапрадукцыйная праца), больш ахвотна перадаюць выкананне асобных задач у рэгіёны з таннай рабочай сілай альбо зусім сыходзяць у афшорныя зоны. Часткова гэта адбываецца з-за таго, што ў Еўропе цяжка здзейсніць рэструктурызацыю, і гэта можа прывесці да таго, што ўвесь бізнес увогуле сыдзе з Еўропы. І адпаведна, па прынцыпе выключэння, застаюцца ў Еўропе тыя фірмы, якім удаецца павялічыць прадукцыйнасць працы.

Гэта разумная мадэль, але ці няма ў яе адваротнага боку? Адваротны бок такі: у Еўропе высокі ўзровень беспрацоўя з-за таго, што фірмы пазбягаюць наймаць новых працаўнікоў. І наадварот, у ЗША эканамічны рост адбываецца, як правіла, з адносна меншым назапашваннем капіталу ў разліку на аднаго працаўніка і з нізкай прадукцыйнасцю працы ў разліку на аднаго працаўніка альбо на адзінку рабочага часу, але затое ствараецца нашмат больш працоўных месцаў.

І праўда, эканамічны рост у Амерыцы, які назіраўся ў 90-я гады, адбываўся дзякуючы прыцягненню на працоўныя месцы беспрацоўных і тых, хто жыў на сацыяльную дапамогу. Такім чынам, эканамічны рост у ЗША прадугледжвае стварэнне вялікае колькасці працоўных месцаў; эканамічны ж рост у Еўропе, нават пры высокіх ягоных тэмпах, толькі захоўвае ўзровень беспрацоўя на тым жа ўзроўні.

У Еўропы мала шанцаў выйсці з пасткі беспрацоўя ў новым годзе — годзе рэцэсіі — альбо ў бліжэйшыя колькі гадоў. Каб змяніць такое становішча, Еўропе давядзецца як мае быць «раскачагарыць» сваю эканоміку масіраванымі інвестыцыямі, таннымі грашыма, зніжэннем падаткаў для ўсіх і, магчыма, таксама выдаткамі на грамадскія працы.

У ЗША цяпер назіраецца рэцэсія і, адпаведна, расце беспрацоўе. Верагоднае нязначнае ажыўленне не будзе такім моцным, каб апярэджваць рост прадукцыйнасці. Такім чынам, у новым годзе Еўропа і ЗША захаваюць аднолькавы выгляд.

**© Project Syndicate**

# Стывену Хокінгу – 60

Самаму слыннаму з цяперашніх англійскіх навукоўцаў– Стывену Хокінгу – споўнілася 60 гадоў. Найбольш ён вядомы сваёй кнігай «Кароткая гісторыя часу» – пра паходжанне Сусвету, узаемадзеянне прасторы і часу.



Яго называюць жывым класікам навукі, чые ідэі па сваёй значнасці льга супаставіць хіба што з тэорыяй Эйнштэйна. Стывен Хокінг цяжка хварэе, не можа гаварыць, падтрыманнем яго жыццядзейнасці займаецца цэлы медыцынскі цэнтр.

У пятніцу Хокінг выступіць з лекцыяй, і мы зноўку пачуем голас, які будзе сінтэзавацца камп'ютэрам. «Я мушу патлумачыць, што я кантактую са светам праз камп'ютэр і сінтэзатар мовы, – распавядае вучоны. – Яны працуюць ад батарэі пад маім інвалідным крэслам. Я магу выбіраць словы са спісу на экране, націскаючы на рычаг. Як толькі сказ складзены, я агучваю яго праз сінтэзатар».

Падобным жа чынам ён піша кнігі. Яго «Кароткая гісторыя часу», выдадзеная накладам больш як 10 мільёнаў і перакладзеная на 40 моваў, стала адным з сусветных бестселераў, а яго самога зрабіла мультымільянерам.

У яго шмат і пабочных заробкаў – такіх, як удзел у навукова-фантастычных фільмах, рэкламных роліках, серыі мультфільмаў «Сімпсаны». Прыкаваны да крэсла, Хокінг вядзе актыўны і нават экстравагантны лад жыцця. Ён некалькі разоў быў жанаты. Гэта не зусім упісваецца ў класічны вобраз кембрыджскага вучонага.

Для навукоўца 60 гадоў – узрост малады, і Стывен Хокінг спадзяецца яшчэ зрабіць нямала адкрыццяў. Найбольш яго цікавіць цяпер такое пытанне: «Я б мог дасягнуць жаданае мэты і высветліць, як стварыўся Сусвет. Толькі я дагэтуль не ведаю, навошта ён утварыўся».

**BBC**

# Ватыкан чаканіць еўра з партрэтам Папы

Ватыкан, які не ўваходзіць у Еўрапейскі Саюз, усё ж адчаканіў сваю манету вартасцю 1 еўра з партрэтам Папы Рымскага Яна Паўла II.

Папа дабраславіў новую еўрапейскую валюту еўра пасля адпраўленай ім навагодняй літургіі, звяртаючыся з акна свайго працоўнага кабінета да тых, хто сабраўся ў Ватыкане на плошчы Святога Пятра.

Святы пасад з 1 студзеня далучыцца да адзінай манетнай сістэмы 12 дзяржаў-сябраў Еўрапейскага Саюзу. На падставе міждзяржаўнай канвенцыі з Італіяй, наноў адрэдагаванай і прынятай у 2000 годзе, Ватыкан мае права чаканіць уласныя манеты на суму 670 тыс. еўра ў год.

У адрозненне ад купюр еўра, якія ва ўсіх дванаццаці краінах еўразоны аднолькавыя, на адваротным баку манет вартасцю 1, 2 і 5 еўра кожная з краін можа чаканіць уласную сімволіку. Такім чынам, як падлічыла Брытанская *Financial Times*, у Еўропе будзе больш за 50 «гатункаў» новых адзіных грошай, у якіх еўрапейцы мусяць разабрацца.

# Новы панскі прытулак для Пуціна

«Вялікую» палітыку будуць рабіць і ў расійскім горадзе-партнёры нямецкага Хомбурга(?). У гарадскім раёне Пецяргофа – Стрэльне – стаяць тры замкі. Гэта выдатна адрэстаўраваны ў 1999 годзе невялікі замак «Палац Пятра» і маленькі Замак львоў, які яшчэ патрабуе рамонту. Аднак на слыху сёння – вялізная руіна Канстанцінаўскага палацу. Бо ж сам галава дзяржавы Уладзімір Пуцін хоча ператварыць яго ў месца перабывання замежскіх гасцей дзяржаўнага ўзроўню. Руіна гэтая, дарэчы, знаходзіцца за межамі гораду, па дарозе ў Санкт-Пецярбург.



Праект гэтага агромністага комплексу распрацаваў яшчэ пры жыцці Пятра I архітэктар Нікола Мічэці, тады ж распачалася будоўля, якая, на жаль, так і не скончылася. У сутарэннях палаца захоўваліся бочкі з такайскім віном. У 1797 годзе цар Павел I падараваў свайму другому сыну Канстанціну Паўлавічу на 18-годдзе ўвесь раён Стрэльны.

У 1990 годзе ЮНЕСКА ўключыла палац у спіс сусветных помнікаў архітэктуры.

Планы Пуціна прынеслі пэўныя змены: калі яшчэ мінулай восенню можна было свабодна прайсці на тэрыторыю палаца і ўсё там агледзець, то цяпер замак і верхняя частка паркавых забудоў цалкам агароджаны і пільна ахоўваюцца міліцыяй з ратвейлерамі.

І хто ведае, што мае прэзідэнт у галаве... Ужо 250 гадоў ідзе спрэчка, які горад сапраўдная расійская сталіца – Масква ці Санкт-Пецярбург. У савецкай імперыі лідэрам была Масква, але паколькі Пуцін родам з Санкт-Пецярбургу і найбольшая частка ягонай каманды працавала з ім раней там, то цяпер пайшлі гаворкі, а ці не перавядуць рэзідэнцыю ўраду зноў туды.

Паводле папярэдніх падлікаў, рамонт Канстанцінаўскага палаца і ўзнаўленне вялізарнага парку запатрабуе 40 мільёнаў даляраў ЗША. Рамонт павінен скончыцца сама больш праз пяць гадоў. Ці выйграе ад гэтага Пуцін, калі ён яшчэ будзе на той час прэзідэнтам?

**Rhein-Main.Net (Германія)**

# Белавежскія пагадненьні — Алма-Ата

Гэты матэрыял Зянон Пазьняк даслаў у НАШУ СВАБОДУ напярэдадні Каляды. Мноства сьвятаў і звязаная з гэтым страта некалькіх нумароў не дазволілі рэдакцыі апублікаваць артыкул раней. Але ў першым паслясьвяточным нумары мы лічым неабходным пазнаёміць нашага чытача са сведчаньнямі і развагамі выдатнага палітычнага дзеяча, старшыні КХП-БНФ, удзельніка вырашальных падзеяў нашага дзяржаўнага будаўніцтва.

*Дзесяць гадоў таму зруйнавалася ўлада камуністаў і разваліўся СССР. 25 жніўня 1991 году мы вярнулі незалежнасьць Беларусі. Потым, 19 верасьня, вярнулі на дзяржаўны пасад Беларускі сьцяг і Беларускі герб* Пагоня.

Але яшчэ фармальна існаваў СССР, прэзыдэнт Гарбачоў, савецкая армія. Зразумела, што гэтакае становішча нельга было доўга цярпець, бо яно магло б стаць прычынай збройнага грамадзянскага канфлікту і крывавай вайны.

У сытуацыі, калі тры асноўныя краіны Савецкага Саюзу — Расея, Украіна, Беларусь — абвявілі пра незалежнасьць, Савецкі Саюз фармальна мусіў быць ліквідаваны. Гэта неабходнасьць. Нельга было пакідаць ніякіх праўных зачэпак для каго б там ні было, хто б мог такое становішча скарыстаць.

Прытым само становішча тады, пасьля праваду маскоўскага путчу і страты аўтарытэту Гарбачовым, спрыяла развязцы. Варта толькі было, як кажуць, своечасова працягнуць руку.

То нічога дзіўнага, што Ельцын і Краўчук дамовіліся.

Я называю ў першую чаргу гэтыя дзьве асобы, бо ў мяне склалася ўражаньне, што ініцыятарамі былі найбольш якраз яны. Два беларускія кіраўнікі — С.Шушкевіч і В.Кебіч — былі менш інфармаваныя. Але тое, што рашэньне аб ліквідацыі СССР было прынятае ў Беларусі, у спэцыяльнай, аддаленай ад сталіцы рэзыдэнцыі ў Белавежскай пушчы, гаворыць пра тое, што Ельцын і Краўчук не сумняваліся ў пазыцыі беларускіх кіраўнікоў.

Савецкі Саюз тады ўжо практычна паміраў. Гадзюка мусіла скінуць сваю скуру. Адначасна гэта быў лягічны ход і дзеля замацаваньня ўлады посткамуністычнай намэнклятуры, і дзеля таго, каб пазьбегнуць грамадзкіх ускладненьняў. Ліквідацыя СССР, што для нас больш важна, адчыніла магчымасьці для ўмацаваньня незалежнасьці Беларусі.

Дэклярацыя пра стварэньне СНД хавала, аднак, вялікую небясьпеку для будучыні. Бо расейская палітыка, рана ці позна, мусіла б вярнуцца на свае імпэрскія пазыцыі, і тады СНД маглі б скарыстоўваць як новую форму націску на незалежнасьць свабодных краінаў.

Тэкст Белавежскага пагадненьня заключаў у сабе шмат небясьпечных двухсэнсоўнасьцяў і старых савецкіх уяўленьняў. Тут і пра агульную эканамічную прастору, і пра армію і агульную бясьпеку, і пра аб'яднаньне на новым узроўні ды інш. (Нездарма потым на гэта спасылаўся Лукашэнка.)

Усё, аднак, можна было патлумачыць патрабаваньнямі пэўнай дыпляматычнасьці, мяккасьці пры ажыцьцяўленьні асноўнай задачы — пазбаўленьня ўлады Гарбачова, лагоднага дэмантажу СССР і канцэнтрацыі ўлады ў руках посткамуністычнай намэнклятуры.

У гэты перыяд (каб дасягнуць галоўных мэтаў) Ельцын мог гаварыць усё, што заўгодна, аж да знакамітай фразы тыпу: «Бярыце столькі суверэнітэту, колькі здолееце панесьці» і г.д.

Але потым, калі ўлада ў Маскве стабільна вызначылася б, то ўзьнікла б іншая сытуацыя і іншая палітыка, якая пачала б скарыстоўваць СНД у сваіх інтарэсах. (Так яно потым і сталася.)

У сьнежні 1991 году можна было б дамагчыся таго, чаго дасягнулі Балтыйскія краіны — поўнай незалежнасьці, не зьвязанай ніякімі абавязкамі з СНД.

Зразумела, што беларуская савецкая ўлада была непадрыхтаваная да поўнай і раптоўнай незалежнасьці. Намэнклятура паводзіла сябе так, быццам спадзявалася, што вернецца яшчэ Савецкі Саюз. Але гісторыя зноў давала нам выключны шанс, і трэба было хоць бы засяродзіць увагу людзей на магчымасьцях.

На наступны ж дзень пасьля Белавежы я напісаў артыкул у *Зьвязду* (надрукаваны 11-га сьнежня), дзе зьвярнуў увагу на двухсэнсоўнасьць гэтых тэкстаў і формы СНД у будучыні, на скрытнае блефаваньне Масквы, і засьведчыў, што наш шлях мусіць быць — поўная незалежнасьць Беларусі не ў СНД, а ў асяроддзі незалежных эўрапейскіх дзяржаваў.

На мой погляд, адразу пасьля так званага «нулявога варыянту» і разьлічэньня з СССР Беларусі трэба было выйсьці з СНД і пераарыентавацца на Захад. Гэтыя працэсы (пераарыентацыя на Захад) тады пачалі ўжо добра складвацца. Але развязць іх не ўдалося, бо дзеля гэтага трэба было перамяніць старую ўладу. Старая ўлада, аднак, аказалася мацнейшай за грамадзтва.

***

Адразу пасьля пагадненьня ў Віскулях пра ліквідацыю СССР Вярхоўны Савет Беларусі ратыфікаваў гэтыя дакумэнты. Намэнклятура тут мела свае інтарэсы: яна хацела замацаваць сваю ўладу, а мы — Народны Фронт — хацелі замацаваць незалежнасьць Беларусі.

У Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце мы прынялі рашэньне поўнасьцю падтрымаць Белавежскія пагадненьні і вялі агітацыю за ратыфікацыю дакумэнтаў.

Большасьць дзейнай намэнклятуры дэпутатаў Вярхоўнага Савету і членаў ураду была ў разгубленасьці і нэрвовым здуменьні. Чакалі каманды.

Дарэчы, менавіта таму, што Кебіч апынуўся ў Віскулях і падпісаў дакумэнты, беларуская намэнклятура дружна хіснулася за ліквідацыю СССР. (Дый выхаду ёй не было.) Гэта зразумела, бо намэнклятурай тады фармальна кіраваў Кебіч. Але падрыхтаваў сустрэчу ў Белавежскай пушчы — Шушкевіч. (Як мне падалося, ня ведаючы, што з гэтага атрымаецца.)

Супраць ратыфікацыі выступіў і прагаласаваў у Парлямэнце толькі адзін чалавек — гэта кіраўнік дэпутацкай камуністычнай большасьці Валеры Ціхіня. Ягоны выступ выглядаў кур'ёзам.

***

Праз два тыдні перамовы па СНД і замацаваньне Белавежскіх пагадненьняў працягваліся ў Алма-Аце.

Я быў там у складзе беларускай дэлегацыі ад Апазыцыі БНФ, разам зь іншымі дэпутатамі. Пытаньне стаяла ў тым, каб перацягнуць на наш бок сярэднеазіяцкія краіны і не даць «прыняць» іх у СНД на нашых умовах і канстатаваць тым самым поўнае юрыдычнае зьнішчэньне Савецкага Саюзу.

Азіяцкія дэлегацыі стаялі за тое, каб у гэтым СНД зьберагчы і пакінуць як найболей парадку



ад СССР.

Сытуацыя была парадаксальная і выключная. Відаць, адзіны раз у гісторыі мы, беларусы, дыпляматычна змагаліся за незалежнасьць ад СССР разам з расейцамі супраць азіятаў (якіх расейцы некалі заваявалі). Адным словам, знарок і не прыдумаеш.

Пытаньне было вырашана, вядома, на ўзроўні кіраўнікоў краінаў (у Алма-Аце былі тады ўсе: і Ельцын, і Краўчук, і Назарбаеў, і Кебіч з Шушкевічам і іншыя), але дыскусія на перамовах *паміж дэлегацыямі* была вельмі зацятай. Нарэшце і там нам удалося пераканаць азіяцкіх прадстаўнікоў у неабходнасьці свабоды і развіцьця з Савецкім Саюзам. Хацьця фармальна мы і зрабілі ім некаторыя дробныя саступкі.

Калі я зараз гэта ўспамінаю іназіраю, што там робіцца, то іранізую — паспрабуй загані цяпер азіяцкія рэжымы ў Савецкі Саюз.

Ёсьць, праўда, адзін начальнік, які туды хоча, але ён жыве не ў Сярэдняй Азіі, і большыня яго не разумее.

***

Далейшыя падзеі, пасьля Белавежскіх пагадненьняў, пацьвердзілі, што для беларускай савецкай намэнклятуры галоўны клопат быў не ў будаўніцтве Беларускай дзяржавы, а ў захаваньні сваёй улады, і потым — у скарыстаньні яе ў сваіх інтарэсах.

Пасьля 1918 году ніколі не было такога шанцу для Беларусі, як у 1991 годзе. Народны Фронт скарыстаў яго, як кажуць, на дзьвесце працэнтаў: дамогся незалежнасьці Беларусі, спыненьня дзейнасьці КПСС і камсамола, усталяваньня беларускіх дзяржаўных сымбаляў, стварэньня беларускага войска, адчыненьня беларускіх школаў і г.д.

Але ўлада засталася ў руках посткамуністычнай намэнклятуры. Тады, у 1991 годзе, яна была практычна поўнасьцю незалежнай ад Масквы. І што ж зрабілі гэтыя людзі са сваёй намэнклятурнай свабодай?

У страху перад актыўнасьцю Беларускага Народнага Фронту, баючыся страціць уладу, яны зноў пасунуліся ў Маскву шукаць падтрымкі. Там іх і чакалі. Парадокс, горш за азіяцкі у Алма-Аце, пра што я толькі што расказваў.

У асяроддзі беларускай савецкай намэнклятуры, у руках якой засталася ўлада ў краіне пасьля ліквідацыі СССР, не знайшлося ніводнай моцнай энэргічнай асобы, якая хоць бы проста мела індывідуальную волю да ўлады, хацела б быць свабоднай і незалежна камандаваць. Імкненьне да ўлады ў іх заўсёды завяршалася жаданьнем служыць Маскве, быць нібыта незалежнымі і адначасна выконваць маскоўскія загады, каб ні за што не адказваць.

Так праяўляецца савецкі чалавек («савок») у беларускім намэнклятурным варыянце. Сутнасьць іхнай псыхалёгіі: кіраваць і не адказваць. Гэтай псыхалёгіі яны трымаюцца па сёньняшні дзень.

Тут не знайшлося ні сваіх ельцынаў, ні назарбаевых, ні нават сваіх шэварднадзэ ды аліевых. Шлях да ганебнай крымінальнай аўтарытарнай улады, якую яны цяпер атрымалі і якую падрыхтавалі, быў цалкам імі абумоўлены.

***

Гэта ўсё фармулёўкі, бязьлітасныя дэфініцыі, якія вынікаюць з ходу палітычнай рэальнасьці, якія, магчыма, раняць жывых людзей, удзельнікаў трагічнай драмы, ператваранай імі ў фарс.

З усіх людзкіх дачыненьняў няма нічога вышэйшага, важнейшага і цяжэйшага за палітыку, калі трэба ўлічваць неабходнасьць і абавязкі, асабістае і народнае, калі трэба прымаць рашэньні і будаваць паводзіны зь непрыяцелем, гледзячы чалавеку ў вочы і адчуваючы, што ён, як і ты, — чалавек. Але, як я пераканаўся, палітыка, як і гісторыя, ня мае ўмоўнага ладу. У рэшце рэшт, заўсёды выбар: альбо — альбо. Але людзкае — заўсёды людзкае.

Памятаю адлёт з Алма-Аты вечарам. Пасьля разьвітальнай вячэры (выключна для кіраўнікоў) у самалёт заходзяць Кебіч з Шушкевічам і весела рагочуць.

— Што такое? — пытаемся.

— Мы падтрымалі Расею. Ха-ха-ха.

— Расею падтрымалі, во как!

— Як?

— А так: падтрымалі Расею. И очень вовремя, — сьмяюцца «развальшчыкі СССР».

Аказваецца, на вячэры Ельцын устаў за сталом на ўвесь рост, каб сказаць чарговы тост за Расею. Але не разьлічыў сілы, і раптам гэтак роўненька, як посах Будды, пачаў адхіляцца ад вертыкалі і падаць назад, патылічай на паркет. Кебіч і Шушкевіч, якія стаялі побач, зрэагавалі імгненна і падхапілі Ельцына ў палёце.

Так былі выратаваныя Белавежскія пагадненьні, «падтрымана Расея» і СНД.

У самалёце настрой прэм'ера і сьпікера стаў яшчэ лепшым. Кебіч жартаваў, расказваў анэкдоты, сьмяяўся. І раптам хораша засьпяваў беларускую народную песьню, добрым голасам.

Для мяне гэта стала нечаканасьцю і выклікала перажываньні. (Я таксама люблю сьпяваць беларускія песьні.) Аказваецца, і ў Кебіча, пэўна, гэтак жа, як і ў Дземянцея ці ў Шаладонава, ці шмат у каго з гэтай асобы на прыгнечанай савецкай намэнклятуры, яшчэ ліпеў, мадзей далёка ў падпольлі, на дне, страчаны беларус, які так і не ўзышоў на паверхню жыцьця, з падзямельляў душы.

Потым, у «незалежнай» палітыцы беларускай намэнклятуры нарадзіўся (як і трэба было чакаць) круты паварот у Маскву, у «калектыўную бясьпеку», да аб'яднаньня расейскай і беларускай грашовых сыстэмаў і г.д. Лукашэнка толькі прадоўжыў, давёў да абсурду гэтую палітыку кебічаўскіх дзеячаў.

Яшчэ ў 1991 годзе нам, дэпутатам Вярхоўнага Савету ад Народнага Фронту, была абсалютна, аднязначна і відавочна зразумела поўная нацыянальная беспэрспэктыўнасьць, «канчанасьць» беларускай камуна-савецкай намэнклятуры для беларускага нацыянальнага Адраджэньня. Тут не было ў нас ніякіх ілюзіяў. Ніхто з нас не плянаваў зь імі рабіць нешта дрэннае ці выганяць з працы (яны добрыя выканаўцы), але ў выпадку перамены ўлады ніхто з нас нават думкі не дапускаў, што камуна-савецкая намэнклятура будзе займаць першыя месцы ў дзяржаве (прэм'ер, сьпікер, ня кажучы ўжо пра прэзыдэнта).

Тым часам пасьпяхова змагацца з рэжымам акупацыйнай дыктатуры можна толькі на ўзроўні нацыянальнага адзінства, заснаванага, перш за ўсё, на беларускай ідэі, на духоўных і культурных народных здабытках ды на агульным дабры.

Нацыя адзіная, калі ўсімі павяжаюцца агульныя нацыянальныя каштоўнасьці і ўсьведамляюцца нацыянальныя інтарэсы.

Але на Беларусі захаваўся стары каляніяльны канфлікт паміж уладай і нацыяй. І нават Белавежскія пагадненьні і ліквідацыя СССР не паўплывалі рашуча на гэты зьвыраднелы каляніяльны рэлікт.

Прычыны дэфармацыі вядомыя. Іх трэба ліквідаваць сёньня і заўтра — увесь час: праз асьвету — да свабоды, праз культуру — да Бацькаўшчыны.

Белавежскія пагадненьні паказалі, як важна быць унутрана падрыхтаванымі да пераменаў.

Перамены чакаюць зноў. Гэта відавочна. І нам, беларусам, трэба не чакаць, а рыхтавацца да іх праз пазнаньне сябе, праз усьведамленьне нашага супольнага дабра і агульнай беларускай справы. Нават больш нядаўняя гісторыя вучыць нас гэтай праўдзе.

***

Калі я ўжо напісаў гэтыя пабежныя ўспаміны, трапіўся мне на вочы артыкул у *Народнай Волі (11.XII.2001)* пад назвай «Віскулі». Аўтар (Леанід Лыч) усур'ёз апісвае СНД як рэальную «больш дэмакратычную і гнуткую сыстэму» «ўсебаковай садружнасьці», наіўна мяркуючы, што стварэньне СНД і было мэтай Белавежскіх пагадненьняў, і калі б, маўляў, правілаў СНД прытрымліваліся, то было б усё добра.

Усю наступную постсавецкую палітыку аўтар артыкула лічыць «адступленьнем ад вызначанага ў Віскулях курсу» і ад мэтаў СНД і пастаянна пра гэта паўтарае, як некалі верныя ленінцы лічылі недахопы камунізму адступленьнем ад ленінскіх запаветаў. (Школа думаньня — вялікая справа.)

А потым ідзе пасаж, які варта працытаваць поўнасьцю, бо да такога яшчэ ніхто не дадумаўся.

Мне прыйшлося пачуць і прачытаць столькі непраўдзівых і фантастычных выказваньняў у свой адрас, як, бадай, нікому зь беларусаў за апошнія сто гадоў. Я думаў, што мяне ўжо нічым ня зьдзівіш, ажно аказваецца, часам можна яшчэ й зьдзівіцца.

*«З роспускам СССР пагадзіліся, — піша Леанід Лыч, — створанае СНД публічна ўхвалялі ўсе. Калі ў тыя «сьнежаньскія гарачыя дні» хтосьці і выступаў супроць, дык гэта быў Народны Фронт і ягоны лідэр Зянон Пазьняк. Ён лічыў падзею ў Віскулях палітычнай гульнёй, а сам дагавор аб эканамічнай супольнасьці — блефам, эканамічным абсурдам. «Для Беларусі, — сьцьвярджаў Зянон Станіслававіч, — няма іншай альтэрнатывы, як вяртаньне на Захад, як шлях у аб'яднаную Эўропу, як незалежная дзяржаўная палітыка ў інтарэсах свайго народа». Але кола ўжо круцілася...»* і г.д. *(«Народная Воля», 2001, 11 сьнежня)*

І мая пазыцыя, і цытата перададзены правільна, і галоўнае — усё яно стопрацэнтова пацьверджана жыцьцём, далейшым ходам падзеяў. Але аўтар, навучаны думаць па-іншаму, ня можа гэтай рэальнасьці ўспрыняць. Зьбіліся, маўляў, з курсу. Ён шчыра думае, што ў Віскулях сабраліся, каб стварыць СНД і напісалі тэкст (у значнай часткі заведама нерэальны), каб яго потым прытрымлівацца, як праграмы паводзінаў на будучыню, у пабудове СНД.

Усе гэтыя туркмэн-башы, аліевы, карымавы ды іншыя калгаснікі зьявіліся, відаць, ад таго, што не прытрымліваліся СНД, запаветаў, прыдуманых у Віскулях.

Тэкст у.Віскулях (мушу зноў паўтарыцца) узьнік дзеля размежаваньня ўлады і свабоды. Ён даў магчымасьць кожнаму змагацца за сваё: нам, адраджэнцам і дэмакратам, — за свабоду; ім, намэнклятуры — за ўладу. Перамагла ўлада. (Пакуль што перамагла, бо барацьба працягваецца.) Пры гэтым умоўнасьць СНД імкнулася скарыстаць выключна Расея, каб мець рычагі ўплыву на іншыя краіны (што вызваліліся з СССР). Зразумела, навошта ёй гэта патрэбна.

Мноства людзей піша пра палітыку, гледзячы тэлевізар і чытаючы газэты, часта нават ня маючы ўяўленьня пра палітычнае асяродзьдзе, дачыненьні, дакумэнты і рэальнасьць. Пісаць не забароніш, нават калі пішуць, што Пазьняк змагаўся за СССР. (Хто ж на гэта стане сур'ёзна адказваць?)

Але навошта тады я тут усё гэта кажу? А справа ў тым, што дайшло да поўнага абсурду. Мае сябры так закруціліся «ў разуменьні палітыкі», што больш аб'ектыўна ўжо пішуць непрыяцелі. Нават лютыя ворагі будуць больш праўдзівымі і ніколі ня ўблытаюць мяне ў Савецкі Саюз. Бо гэта мяжа іхнае праўды.

Што адбываецца з вамі, братове, на скрыжаваньні, — хочацца задаць рытарычнае пытаньне сябрам (шмат каму), калі б толькі я не разумеў, што адбываецца.

Трымайцеся, не паддавайцеся ўдарам лёсу і ўплывам стыхіі, калі ўжо датканулася вас наша супольная бяда, бо самае цяжкае ў палітыцы — глядзець у вочы.

**Зянон ПАЗЬНЯК**

# Партнёры і любоў

*Гэна былі тыя, што сваёй здольнасцю рабіць спрадвечны рух спакойным спрыялі жыццю.*

Лао Цзы

Розныя наіўнякі любяць паразважаць пра нібыта грошы, каторыя далі нібыта замежныя спонсары нібыта змагарам за прэзідэнцтва ў Беларусі ў абмен на нашае наймачнейшае, найдаражэйшае і найсвяцейшае.

На фоне загадкавага наведання Расіі правадыром Беларусі напярэдадні Каляды і Новага году варта падумаць: каму мы насамрэч патрэбныя і навошта.

Існуюць у жыцці розныя тыпы прыязных адносінаў. Дзеці любяць ласункі, гаспадыні – сваіх парсючкоў, патрыёты – бацькаўшчыну, ваўкі – авечак. Нічога крыўднага ў тым няма. Ніхто з вышэйзгаданых не стаіць вышэй за іншых на прыступках маральнай градацыі.

Проста адносіны дзеляцца на разавыя і сталыя, узаемавыгадныя і аднабакова карысныя, трафічныя (з патрэбаў харчавання) і маральныя. Найбольш трывалыя, безумоўна, сталыя ўзаемавыгадныя адносіны.

Такія адносіны ўсталёўваюцца ў палітычным жыцці паміж дзяржавамі, каторыя вядуць інтэнсіўны абмен таварамі і паслугамі, што дае шмат карысці абодвум бакам.

Здаецца, што паміж сапраўды незалежнымі дзяржавамі і быць не можа іншага тыпу знешнеэканамічных зносінаў. Хіба што адна з іх толькі лічыцца незалежнай ад іншай, а па сутнасці яна, напрыклад, калонія.

Рэтраспектыўна, як згадаеш савецкія падручнікі па гісторыі, лёгка заўважыць, што ўсе, хто ў свой час добраахвотна ўвайшоў у склад Расійскай імперыі, зрабіліся там чэзлымі ўскраінамі "турмы народаў" і інтэнсіўна змагаліся за вызваленне, аж покуль не ўтварылі СССР і не парабіліся там рэспубліканскімі сёстрамі.

Калі бальшавіцкія мары распыліся, як дым у паветры, то высветлілася, дзе, што, з кім і як чынілася. Стала відавочна, як моцна ўплывала на падзеі тэхналогія і геапалітыка.

Бо ні распад СССР, ні іншыя страшылкі для электарату не паўплывалі істотна на жыццё на важных вытворцаў і спажыўцаў стратэгічна значных рэчаў ланцужкі "сыравіна-тавар".

А вось фінансавы крызіс 1997-1998 году ва Усходняй Азіі і Расіі адбіўся на нашых знешнеэканамічных поспехах далёка не лепшым чынам.

Сітуацыя прымушае задумацца. Дабрабыт нашай краіны вызначаецца ў першую чаргу эфектыўнай прысутнасцю на знешніх рынках. Мы павінны быць чаканым прадаўцом і платаздольным пакупніком, каб жыць годна.

Тым часам аб'ём знешняга гандлю за апошнія гады вагаўся занадта істотна, каб лічыцца стабільным. Калі ў 1995 годзе доля Расіі ў знешнім гандлі была прыкладна роўная долі астатняга свету, то потым яна пачала ўзрастаць; разам з тым адмоўнае сальда, г.зн. перавага кошту купленага ў Расіі над коштам прададзенага туды тавару, расце пасля 1997 году значна хутчэй.

Мы свядчым пра тое, што мы чым далей, тым болей канкуруем з вытворцамі іншых краінаў на расійскім рынку з дапамогай заніжэння цэнаў на нашыя тавары — наўпрост альбо праз бартэр. Таксама гэта сведчыць і пра колькасць фінансавых рэсурсаў, што пакідаюць капіталы вытворчасці па-за межамі Бацькаўшчыны. Але адказаць, ці робяць яны гэта з уласнай ініцыятывы альбо па нечым загадзе, сёння немагчыма.

Сітуацыя робіцца зусім драматычнай, калі разумееш, што расійскі рынак мае вельмі зменлівыя памеры і цалкам будзе залежаць яшчэ гадоў дзесяць ад цэнаў на нафту і натуральны газ. Арганічныя карысныя выкапні даюць пятую частку прыбыткаў расейскага бюджэту і вызначаюць пакупніцкі энтузіязм надта вялікай колькасці патэнцыйных спажыўцоў беларускіх тавараў.

Гэта і настаўніцы, якім патрэбныя вырабы «Мілавіцы», і ракетчыкі, што не абыходзяцца без прадукцыі нашага ВПК.




І тыя, і тыя маюць крыніцай прыбытку дзяржаўны бюджэт.

Адначасова колькасць даляраў ад экспарту, які трапляе ў Расію, вызначае і цікавасць тамтэйшых экспарцёраў да ўзроўню якасці патрэбнай камплектацыі. Бо калі даляраў хапае, то можна ўзяць нешта лепшае за беларускі прамтавар, балазе не мы адны прадукуем сродкі вытворчасці і вырабы «вялікай хіміі».

Непакой, які можа ўзнікнуць з гэтай прычыны, залагоджвае хіба невялікая, але істотная з пункту гледжання будучыні тэндэнцыя. На свеце ёсць тры краіны, якія месцяць у сабе палову насельніцтва планеты і ладную частку якіх толькі можна рэсурсаў. Гэта Кітай, Індыя і Бразілія.

Па ўсіх раскладах у дзяржаваў гэтых няма іншага выйсця, акрамя няспыннага руху наперад ва ўсіх аспектах прамысловай і сельскагаспадарчай дзейнасці. Ёмістасць іхных рынкаў у сто разоў вышэйшая за расейскі. Замацавацца там Беларусь можа як роўная. Тым больш, што і адтуль можна атрымаць вельмі многа патрэбных нам рэчаў.

Дык вось на гэтых новых для нашай эканомікі рынках прысутнасць Беларусі ўзрастае. Каб захаваць тэмпы прыросту там, мы тут мусім быць нагэтульні ж дынамічныя і гатовыя да зменаў, як яны. Мы мусім атрымліваць інвестыцыі, як яны. Мы мусім вучыцца таму лепшаму, што ўмеюць рабіць гэтыя гіганты.

Гэта будзе партнёрства. Яно патрэбнае, бо любові да Вялікай Русі дзеля поспеху ўжо не хапае. Барані божа, але праз тую любоў нашае найдаражэйшае і наймачнейшае можа заўтра нікому не спатрэбіцца.

Як зрабіць спрадвечны рух спакойным?

**Юзік ЛАБЭЦКІ**




# Ашаламляльны поспех еўра

Галава Еўрапейскага цэнтральнага банку (ЕЦБ) Він Дуйзенберг заявіў, што пераход на адзіную еўрапейскую валюту – еўра – прайшоў лепш, чым чакалася. Паводле ягоных словаў, гэты поспех стаў найважнейшым крокам у гісторыі інтэграцыі Еўропы.

Паводле словаў банкіра, больш як 60 млн. з 300 млн. жыхароў "зоны еўра" на працягу першых трох дзён студзеня ўжо атрымалі купюры новай валюты, а манеты еўра звіняць у кашальках больш як 200 млн. чалавек. Як і прагназаваў ЕЦБ, большая частка еўрагатоўкі трапляе да насельніцтва праз банкаматы. Дуйзенберг паведаміў, што да 96% банкаматаў у краінах ЕВС настроеныя на выдачу еўравалюты. У Нямеччыне, Грэцыі Аўстрыі, Нідэрландах, Ірландыі, Бельгіі і Люксембургу еўра выдаюць усе банкаматы без выключэння.

Адначасна галава ЕЦБ з задавальненнем адзначыў, што бальшыня жыхароў "зоны еўра" станоўча ўспрымае новую валюту і актыўна карыстаецца ёю ў штодзённых плацяжах. Пры гэтым ён не падзяляе боязі наконт таго, што пераход на еўра можа выклікаць павышэнне цэнаў. Паводле ягоных словаў, падобныя выпадкі надзвычай рэдкія і найчасцей носяць "анекдатычны характар". Але зусім не да смеху было тысячам людзей, якія рэгулярна карыстаюцца дальнім і прыгарадным чыгуначным транспартам у Нямеччыне. Іх проста ашаламіла, што ў першыя працоўныя дні 2002 году падаражэлі і чыгуначныя білеты.

Афіцыйнае ж павышэнне цэнаў адбываецца паціху, без шырокай рэкламы – служачы як бы фонам да масавай эйфарыі з нагоды з'яўлення на рынку новай валюты. Пасля павелічэння экалагічнага падатку, які ўваходзіць у цану на бензін, падаражэла аўтамабільнае паліва, выраслі памеры некаторых страхавых падаткаў, а таксама тарыфы для грамадзян на электраэнергію. Акрамя таго, пасля ўвядзення еўра ў Нямеччыне ідзе, поруч з афіцыйным,




і прыхаванае павышэнне цэнаў, у прыватнасці, пры іх пераразліку з дойчмарак на еўра.

Еўрапол ахарактарызаваў гіганцкую аперацыю па дастаўцы і напаўненні новымі купюрамі і манетамі еўра фінансавых і гандлёвых сетак 12-ці краін "зоны еўра" як «поўны поспех». Як заявіў прадстаўнік гэтага еўрапейскага паліцэйскага агенцтва, з 650 млрд. еўра, якія паступілі ў наяўны абарот, злачынныя групы скралі «толькі 6 мільёнаў». У цэлым па ўсёй Еўропе было зафіксавана каля 40 нападаў і рабункаў інкасатараў, якія перавозілі еўра.

**Utro.ru**

# Эканамічныя нататкі

## Ільготы прадпрыемствам у 2002 годзе будуць мінімальныя

У бюджэце Беларусі на 2002 год для суб'ектаў гаспадарання рэспублікі максімальна скарочана льготнае падаткаабкладанне. Такім чынам, ільготы, якія мелі прадпрыемствы ў мінулым годзе падчас выплаты падаткаў і мытаў, цяпер дзейнічаць не будуць, гэта тычыцца нават праграм па падтрымцы экспарту, на якія ў 2001 годзе пайшло каля 6 млрд. рублёў. Падтрымка дзяржавы цяпер будзе распаўсюджвацца толькі на некаторыя доўгатэрміновыя праекты. Пра гэта паведаміў міністр фінансаў Беларусі Мікалай Корбут. Ён адзначыў, што гэтага запатрабавала Расія ў рамках сумеснай працы па стварэнні аднолькавых умоў для суб'ектаў гаспадарання: маўляў, у нашай краіне існуюць іншыя сістэмы падтрымкі, і, да таго ж, вытворцам будуць забяспечаны асаблівыя эксперыментальныя ўмовы пастаўкі тавараў на экспарт. Увогуле, у новым бюджэце захавана толькі льготная выплата працэнтаў за крэдыты банкаў.

## Беларускія банкі прымусілі «падняцца на грошы»

Згодна з пастановай Нацбанку краіны, з пачатку гэтага году маёмасны капітал беларускіх банкаў, што маюць ліцэнзіі на прыцягненне ўкладаў фізічных асобаў, павінен складаць не менш за 10 млн. еўра. Тым, хто не прыме гэтага да ведама, прыпыняць ліцэнзію па ўгаданым відзе працы. Як паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі Нацбанку, амаль трэцяя частка фінансавых установаў рэспублікі ўжо падняла маёмасны капітал да гэтага ўзроўню. Іншыя банкі выставілі план мерапрыемстваў па выкананні неабходнага нарматыву. Яго разгледзяць на праўленні Нацбанку, і калі там палічаць план рэальным, хутчэй за ўсё, гэтыя банкі не пазбавяць адпаведнай ліцэнзіі.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

# Кожнаму свая зона

*Апошнім часам з тым еўра шуму было. Чаго шумелі? Няўжо нехта ў Еўразону збіраецца? Навошта яна нам? Нас такія хлопцы сватаюць пагуляцца з расейскімі рублямі. Такія, што, акрамя даляра, нічога не прызнаюць. Няхай карагодзяцца, гэта яшчэ за Кебічам пачалося. Дый не ведае толкам ніхто пра гэты верхні шум. Калі яшчэ тыя еўра ды рублі завядуцца ў кішэні.*

Быў, кажуць, шум і ніжэй і бліжэй. Зноў на карупцыянераў паляванне было. Гэтым разам лавілі на чыгунцы. Упалявалі пару буйнейшых і тузін дробненькіх. Ну, з іхнай перспектыўнай зонай нібыта ўсё зразумела. Не дай то божа нікому.

Вось толькі чыгунка лепшай ад таго чамусьці не стала. Падобны гаспадарча-палітычны феномен не намі адкрыты. Апісаў яго яшчэ да вайны рускі пісьменнік Платонаў. Ён распавёў, як адзін чэкіст, звалі Піюся, пасьлядоўна пусціў у распыл, паставіў да плоту і проста пазабіваў усіх буржуяў. А камунізму ў горадзе не стала.

Ну, нашыя расейскую класіку любяць, таму не сталі далей ганяць чорнакартузнікаў, як Марку па пекле, а ціхенька падвысілі перад святамі, акурат з 23 снежня 2001 году, на 33 адсоткі кошт на квіточкі ў прыгарадныя цягнікі.

Сядзіш сабе, б'еш нагу аб нагу, бо зімна, і чакаеш кантралёраў. Яны прыйдуць і адмысловымі абцужкамі дзірачку табе ў квітку зробяць. А як зазірнеш у тую дзірачку, то відаць праз яе бездань айчыннай эканамічнай прамудрасці.

Сядзіць у той бездані сярэдні гэткі сабе беларус і перацірае рознакаляровыя паперкі: сямейны бюджэт лічыць. Атрымліваецца ў тым бюджэце, каторы ён ад роднай дзяржавы схаваць не паспеў, – трэба кожны чацвёрты рубель на транспарт аддаваць.

Палохацца гэтага не трэба, бо і «мерсэдэс» – гэта транспарт і пэўных выдаткаў патрабуе. Каб сярэдні беларус меў сярэдні «мерсэдэс», то яму давялося б 100% бюджэту на транспарт пусціць. Аўтобусам жа і танней, і пра сябе праўду ад людзей пачуеш.

Да таго ж мы жывем у сацыяльна-арыентаванай краіне, і транспартныя паслугі субсідуюцца і датуюцца праз перазмеркаванне прыбытку ад міжнародных перавозак.

Спажыўцам датацыяў пра гэтыя перавозкі невядома, таму двое з пяцёх талончыкаў не купляюць, у электрычку заходзяць, як да сябе ў хату, і аказваюцца, на ўзор начальнікаў той слаўнай і шматкроць чырванасцяжнай беларускай чыгункі, звышдробнымі карупцыянерамі.

Можа нават і не карупцыянерамі, а звычайнай галотай, бо такім шкодным для нерваў чынам ускосна скарачаюць свае рэальныя выдаткі на 10%.

Яшчэ відаць праз тую чарадзейную дзірачку ў чыгуначным квітку дзяржаўнага архітэтатэга. Ён марыць, як лятуць па далінах і па ўзгорках навыперадкі з цягнікамі танкеткі Т-2 тутэйшае работы. Як выскокваюць з іх не азызлыя цёткі, а элітныя камандасы з голенымі каркамі і жвава прымушаюць пасажыраў плаціць усё, што трэба ўраду.

Цягнуць яны мяхі са штрафнымі санкцыямі ў засекі адной з найстаражытнейшых у свеце чыгунак. І пачынаюць чыгуначнікі аднаўляць самыя старыя ў свеце лакаматывы і іншы ўмоўна-рухомы састаў. Бо доля пакрыцця выдаткаў коштам уласных сродкаў вагаецца ў бальшасці чыгуначных аддзелаў вакол трацціны, а фонды асноўныя такія, як і па ўсёй беларускай эканоміцы – зношаныя больш як на 60%.

Дык гэта бок прадаўца паслугаў. Пачакайце, адгудзе паводка і рушыць на лецішчы і да цешчы бульбу садзіць уся нацыя. Паўмільёна сем'яў, што маюць лецішчы і гароды, да таго рыхтуюцца. Паўтара мільёна сем'яў, што маюць родзічаў на вёсцы, таксама напагатове.

Вось падыдуць яны да касы, убачаць вынікі сваёй электаральнай актыўнасці, малыя заробкі. Убачаць, але скажуць: «Квіткі надта дарагія». І паедуць, і зарыюць у зямлю патрэбную дзеля выжывання вялікага славянскага народу колькасць клубняў.

А то, еўра-шмеўра... Што праз яго ўбачыш? Эйфелеву вежу хіба, дык яе па тэлевізару сто разоў на дзень паказваюць, абрыдла.

Наша зона тут.

**Дацэнт Ю.Л.**

# Раство ў Варшаве

*Вандроўка ў Варшаву на Каляды пацвердзіла дыягназ цяперашняга стану роднай Беларусі – убоства. Мы ўбога жывем і ўбога святкуем.*

Кантрасты выявіліся ўжо на мяжы. Наш аўтобус, дарма што быў рэйсавы і мусіў прыбыць у польскую сталіцу паводле раскладу, прастаяў на мяжы і мытні роўна сем гадзін. Гэта амаль столькі, колькі займае ўвесь шлях ад Мінску да Варшавы. З сямі начных гадзін без сну і з зацёклымі нагамі шэсць з паловай прыпалі на тырчанне на пагранпераходзе «Варшаўскі мост» з беларускага боку. Дамоў мы выправіліся цягніком, што значна зручней. Стаянне на мяжы заняло дзве гадзіны – збольшага яны сышлі на тое, каб змяніць колы цягніка ў чыгуначным ангары ў Брэсце. Відовішча досыць цікавае: адмысловыя дамкраты падымаюць вагоны з соннымі пасажырамі прыкладна на паўтара метра, старыя колы адчапляюць, а на іх месца падводзяць і прымацоўваюць новыя. Рэч у тым, што ў Еўропе чыгунка з вузкай каляінай, а ў нас – з шырокай. Між іншым, Беларуская чыгунка атрымлівае досыць буйныя валютныя паступленні за перастаноўку платформаў пад вагонамі і для вузкакалейкі, і для шыракакалейкі.



Здзівіла на памежжы таксама аднясная знаходлівасць і звыродлівасць нацыянальнага беларускага бізнесу – чаўночніцтва. Схема такая. Дзядзька ездзіць прадаваць у Польшчу алкаголь ды цыгарэты, якія там каштуюць троху даражэй, чымсьці ў нас. Закупляе ён усё гэта на самой мяжы – у *Duty free shop*, дзе гандлююць таварам без падаткаў. Абмежаванні на правоз алкаголю і тытуню абыходзяцца таксама элементарна. Тым, хто едзе ў Польшчу, але па справах не бізнесовых, прапануюцца 2 даляры, каб яны ўзялі і правезлі з сабою камплект: блок цыгарэт і літр гарэлкі. Нездарма з новага году дзеля абароны ўнутранага рынку палякі ўводзяць больш жорсткія абмежаванні на гэтыя рэчы: пачак цыгарэт і пляшка гарэлкі.

Польскія дарогі сустрэлі гэткай жа заснежанасцю і немажлівасцю хутка рухацца, што і беларускія. У ваколіцах Варшавы на дарогах багата аварый. Дарэчы, на Каляды польская аўтаінспекцыя наладзіла цікавую акцыю. Людзі з паласатымі дручкамі пераапраналіся ў Дзядоў Марозаў (у польскім варыянце – святых Мікалаяў), спынялі кіроўцаў, якія правілаў якраз не парушалі, і ўручалі ім за гэта святочныя падарункі.

У Варшаве таксама пад два мільёны жыхароў, як і ў Мінску, але машын значна болей. Сярэдні заробак у Польшчы ўсё ж 400 даляраў супраць нашых няпоўных 100. Каб не было затораў, зялёнае святло для пешаходаў запальваецца ўсяго на два дзесяткі секунд. Бывае, толькі падбегам можна паспець апынуцца на другім баку вуліцы, пакуль не з'явілася чырвонае. Шмат прыватных аўто – значыць, вальней у грамадскім транспарце. Гэта аўтобусы і трамваі. Ходзяць яны часта і па раскладзе, вывешаным на прыпынках. Плюс-мінус 5 хвілін. На прыпынках і ў салонах – шыльды з назвамі вуліц і прыпынкаў маршруту. У палове аўтобусаў на кабіне кіроўцы размешчана электроннае табло, якое паведамляе наступны прыпынак, час і дату. Што праўда, талончык на адну паездку каштуе дорага – 2 злотыя 40 грошаў (пры курсе 1 даляр за 3,9 злотага). А так шмат што каштуе танней за беларускае, нават калі не зважаць на чатырохразовую розніцу ў сярэдніх зарплатах у Польшчы і ў Беларусі. Напрыклад, кілаграм яблыкаў у супермаркетах каштуе 90 злотых, то бок 400 беларускіх рублёў. Каб скончыць транспартную тэму, скажу, што ў польскай сталіцы ўсяго адна лінія метро і дужа занядбаныя і брыдкія чыгуначныя вакзалы. Да таго ж вакзалы тояць у сабе небяспеку знаёмства з рэкетам, які паходзіць з колішняга СССР і спецыялізуецца на бізнесоўцах і чаўнаках з гэтых абшараў. На «Варшаве ўсходняй» давялося сутыкнуцца з вымагальнікамі з Масквы. Праўда, удала – кашэль не палягчэў. Як яны патлумачылі, у іх дзейнічае свой, так бы мовіць, «прафесійны» кодэкс: нібыта турыстаў не чапаюць, а данінай абкладаюць толькі тых людзей бізнесу, хто мае пры сабе суму ад паўтысячы даляраў. А можа, проста гэта 25 снежня было, усё ж Раство, свята...

Варшаўскія вакзалы – частка безгустоўнай савецкай будаўлянай спадчыны. Хоць ейны сімвал – Палац культуры і навукі ў цэнтры польскай сталіцы, падараваны Савецкім Саюзам у 1955 годзе да Міжнароднага фестывалю моладзі і студэнтаў і скапіраваны з маскоўскіх высотак, – не выглядае недарэчным. Увогуле, што да архітэктуры, Варшава, якая зрабілася сталіцай пасля Кракава напрыканцы 16 стагоддзя, – горад так сабе. З сотнямі нарожных ад польска-савецкай дружбы бетонна-шкляных гмахаў, якія цяпер палякі старанна завешваюць вялізарнымі каляровымі рэкламнымі плакатамі, і з тысячамі спальна-панельных дамоў. Не будзь адноўленай амаль цалкам па архіўных чарцяжах і фатаздымках гістарычнай часткі, Старога мяста, то не было б на што глядзець. Але варшаўскія новабудоўлі на ўскраінах – гэта ўжо не штампаваныя скрынкі, а арыгінальныя 4-6-павярховыя дамкі.

Калі ўдзень Варшава збольшага не ўражвае, то па вечарах напярэдадні снежня ўся спрэс Варшава – гэта мноства святочных паштовак. Вока беспераныма ловіць густоўна аздобленыя агеньчыкамі ялінкі па вітрынах крамаў, цырульняў, аптэк, на бензакалонках, у вокнах офісаў, на пляцах, проста ў дварах і на балконах дамоў. Усё проста, без шыку, але прыгожа: сапраўды пранікнёная святочная атмасфера. Хоць у Празе, кажуць, калядныя днямі яшчэ файней. Адрозненне ад святочнага ўпрыгожвання горада ў Мінску, дзе адмыслова і густоўна аздабляецца толькі цэнтр, і ў Варшаве, дзе становіцца пакаляднаму прыгожа і на ўскраінах таксама, – у тым, што ў нас гэта робіцца, так бы мовіць, цэнтралізавана, а ў палякаў самадзейна. То бок у нас усталёўваюць ялінкі і вешаюць на іх ліхтарыкі спецыяльныя гарадскія службы, а ў Варшаве гэтым займаюцца самі людзі.

Па ўсёй Варшаве раскіданы невялічкія ёлачныя кірмашы. Тут прадаюцца яліны штучныя, ссечаныя, жывыя ў гаршках, ёлачныя вянкі, проста лапкі. Набытую ёлку тут вам не абмотваюць вяроўкай, а хуценька загортваюць адмысловаю прыладай у сетку. Ёлку тут можна купіць і надвячоркам 24-га. У Мінску пасля 15-ай гадзіны 31 снежня я проста збегаўся, каб прыдбаць хоць якую ялінку.

22 і 23 снежня чароды палякаў шыбуюць не толькі да касцёлаў, але і да супермаркетаў, каб накупляць прадуктаў на святочны стол і не толькі. Бо з абеду 24 снежня ўсё зачыняецца на тры дні, працуюць адно што рэдкія малыя крамкі. Бо жа нараджэнне ў Польшчы – самае галоўнае і культавае свята. Ціхае і сямейнае. Новы год (калі дакладна, то ён тут называецца Сільвестрам) мае святочны статус значна ніжэйшы. Сацыялагічныя даследаванні ў Польшчы паказалі, што Нараджэнне Хрыстова дома адзначаюць 75%. На святочны стол у сярэднім яны трацяць 275 злотых (70 даляраў), на падарункі – 200 (50 даляраў).

У Беларусі гэта будзе для многіх цэлая зарплата. У нас не кожны можа паставіць ёлачку з новымі непатрэсканымі цацкамі і неабтрэсенымі гірляндамі. Адной прагі свята без дабрабыту замала.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

**ПАМЯЦЬ**

## Кніга спадчыны рэжысёра

У Віцебску рыхтуецца да выдання кніга твораў Валерыя Маслюка, былога галоўнага рэжысёра Нацыянальнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, які сёлета зачасна пайшоў з жыцця. Валерый Маслюк, які працаваў рэжысёрам у віцебскім тэатры ў 1979–1981 гадах і з 1993 году да канца жыцця, быў таксама таленавітым драматургам і паэтам. Ягоныя п'есы «Пад сонцам» ды «Каці-гарошак» увайшлі ў рэпертуар тэатра, працу над п'есай «Хоба» ён не паспеў завяршыць.

Калектыў віцебскага тэатра вырашыў выдаць літаратурную спадчыну Маслюка, дзеля чаго акторы накіраваліся 17 снежня ў Магілёў. Там на сцэне Магілёўскага абласнога тэатра, дзе калісьці таксама працаваў Маслюк, яны паказалі ягоную апошнюю пастаноўку пад назвай «Кахаю, спадзяюся, чакаю» паводле твора шведскага пісьменніка Энтані Свэрлінга. Па словах загадчыцы літаратурнай часткі тэатра Святланы Дашкевіч, гэтая пастаноўка была цалкам аўтарскай працай Валерыя Маслюка і лічыцца адной з лепшых у рэпертуары тэатра. Ён пераклаў і дапрацаваў арыгінальны тэкст п'есы, увёў новых персанажаў і сам напісаў для іх словы. Але Маслюк не паспеў пабачыць сцэнічнага ўвасаблення свайго твора, і ўпершыню п'есу паказалі 3 кастрычніка гэтага году на ягоныя саракавіны. Выезд у Магілёў, паводле словаў Святланы Дашкевіч, прайшоў надзвычай удала, бо па Маслюку там засталася добрая памяць. Яшчэ на пачатку васьмідзесятых гадоў Маслюк паставіў у Магілёве «Тутэйшых» Янкі Купалы, у магілёўскай абласной газеце ён друкаваў свае вершы. Паралічаныя з магілёўскага тэатра дабрачынныя ахвяраванні пойдуць на выданне зборніка твораў Валерыя Маслюка. На 11 лютага запланаваны падобны выезд у Мінск, дзе Маслюка памятаюць па рэжысёрскай працы ў Рускім тэатры. У Мінску спектакль «Кахаю, спадзяюся, чакаю» будзе паказаны на сцэне Купалаўскага тэатра.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

# Грахі савецкай дзяржавы

*Шмат хто любіць крытыкаваць велізарныя дзяржаўныя ўтварэнні. Яны кажуць, што тыя настолькі агромністыя і бюракратызаваныя, што нічога нязда тныя зрабіць слушна. Магчыма, яны маюць рацыю. Але адно ў такіх дзяржаваў атрымліваецца – забіваць людзей. Крывавае XX стагоддзе гэта даказала.*

Адной з найбольш жорсткіх дзяржаваў-забойцаў у тую эпоху быў Савецкі Саюз. Дзесяць гадоў таму ён развалі ўся. 1991 год павінен запомніцца як найвялікшая перамога ў барацьбе за свабоду. На тэрыторыі былой краіны-монстра больш не пануюць ва ўсіх сферах жыцця тэрор і морак.

Узгадайма мільёны забітых у імя той дзяржавы. Іх сляды — на фатаздымках і дакументах з савецкіх архіваў, у незлічоных масавых пахаваннях па ўсіх кутках былога СССР. Халодны ўражвай трупаў.

Іх нельга забыць. Найбуйнейшая з дзяржаўных машынаў у гісторыі забіла дзесяткі мільёнаў людзей – жанчын, дзяцей, бацькоў, цэлых сем'яў.

Нацыяналізаваная, планавая эканоміка – сацыялізм у асобна ўзятай краіне – магла існаваць толькі ва ўмовах тэрору. Свабодны рынак, эканоміка, у якую не ўмешвалася дзяржава, не маглі зрабіць і не зрабілі таго, на што аказаўся здатны жалезны кулак савецкай улады. І мы павінны вынесці з гэтага ўрокі.

Першыя вялікія канцэнтрацыйныя лагеры пабудавалі не Гітлер з нацыстамі. Іх пабудавалі Ленін, Сталін, бальшавікі. У 30-х гадах ужо сотні такіх лагераў труцілі сабою зямлю.

Так званых ворагаў народу, у тым ліку інтэлігенцыю і рэлігійных дзеячаў (іудзеяў, каталікоў, праваслаўных), ссылалі ў лагеры разам з крымінальнікамі. Там іх прымушалі працаваць літаральна да смерці. Паводле самых сціплых падлікаў, у лагерах загінула каля 16 мільёнаў чалавек.

Ва Украіне ў 1932-33 гадах уведзеная Сталіным сістэма размеркавання зерня замарыла голадам прыблізна 5 мільёнаў сялянаў. Людзей забіла дзяржаўнае планаванне.

У 1933 годзе адміністрацыя прэзідэнта Франкліна Рузвельта, у якой сядзелі прыхільнікі і агенты камунізму, што сёння пацвярджаецца савецкімі і амерыканскімі дакументамі, афіцыйна прызнала савецкі ўрад. У другой палове 30-х пачаліся сумна вядомыя паказальныя судовыя працэсы. Гэта сталася пачаткам вялікага тэрору, у выніку якога загінуў прыблізна мільён грамадзянаў. Сталін штодзённа падпісваў смяротныя прысуды. У адным з такіх прысудаў, які захоўваецца ў былых савецкіх архівах (апублікаваны ў «Чорнай кнізе камунізму»), Сталін распараджіўся вынішчыць 6 600 сваіх палітычных апанентаў.

Даходзіла да таго, піша гісторык Роберт Конквэст, што напярэдадні дня на Лубянцы расстрэльвалі да 200 чалавек. У той самы час сакрэтныя службы рознымі спосабамі пазабівалі 6,5 мільёнаў кулакоў – заможных сялянаў, якія супраціўляліся палітыцы калектывізацыі.

У 1939 годзе Саветы заключылі «пакт аб ненападзе» з нацысцкай Нямеччынай, і пачалася Другая сусветная вайна. Нямецкая армія ўварвалася ў Польшчу з захаду, а Чырвоная – з усходу. Саветы накіравалі больш за мільён чалавек з прылучаных земляў у ГУЛАГ.

Пасля таго, як у 1941 годзе Гітлер напаў на Саветы, прэзідэнт Рузвельт і ягоная адміністрацыя пачала дапамагаць Сталіну і Савецкаму Саюзу. Вялізарная ваенная і матэрыяльная дапамога выкарыстоўвалася дзеля падтрымкі тэрору і генацыду ў Савецкім Саюзе. Дапамога перацякала да савецкіх дзяржаўных чыноўнікаў і іх ведамстваў і выкарыстоўвалася для абароны і ўзмацнення Сталіна і савецкага ўраду. (Ленін і Сталін ужо забілі 12 мільёнаў «ворагаў народу», перш чым Гітлер і нацысты прыйшлі да ўлады ў 1933 годзе.)

На дзень смерці Сталіна (у 1953 годзе) ахвярамі дзяржаўнай палітыкі Савецкага Саюзу ўжо сталі ад 25 да 30 мільёнаў чалавек. З 50-х і да 80-х гадоў мноства савецкіх грамадзянаў надалей цярпела ад дзяржаўнай палітыкі.

«Ворагаў» усё яшчэ накіроўвалі ў ГУЛАГ ці на «лячэнне» ў псіхіятрычныя клінікі. А народ у большасці сваёй гібеў на ўзроўні жыхароў краін трэцяга свету, бо сацыялістычнае планаванне не спаўняла сваіх заданняў.

Неасацыялістычныя крытыкі, многія з якіх працуюць у амерыканскіх універсітэтах і цэнтрах уплыву, часта жаляцца на жорсткасць капіталізму, ад якой цэрпяць менш забяспечаныя людзі. Аднак параўнайце непадпарадкаваную дзяржаве эканоміку і падкантрольны ўрад з сацыялістычнай эканомікай у савецкім стылі, і што вы пабачыце?

Дзяржава з неабмежаванай уладай – самы эфектыўны забойца.

**Майкл ЧЭПМАН**
**The Washington Times**




Фота Ул. ШАПАКА

Курапаты. Студзень 2002 году

# Гімнастычны турнір пераносіцца

Тэрміны традыцыйнага гімнастычнага турніру «*Gallina Blanca*», які збірае ў пачатку года ў Мінску ўсіх сусветных «зорак» гімнастыкі, перанесены на больш позні час – спаборніцтвы




пройдуць з 15 па 17 лютага.

Больш ніякіх змяненняў, паведамляюць арганізатары, не прадбачыцца. Як і раней, пад эгідай «*Gallina Blanca*» на арэне мінскага Палацу спорту будуць разыграны ўзнагароды Кубка Беларусі па мастацкай гімнастыцы, уручаны ўзнагароды ў дзіцячых спаборніцтвах «*Baby Cup*». Больш таго, БАГ пасля завяршэння спаборніцтваў мяркуе хадайнічаць перад Міжнароднай федэрацыяй гімнастыкі аб прысваенні ў наступным годзе турніру прэстыжнай катэгорыі этапу «Гран пры». Па папярэдніх водгуках спецыялістаў, беларускі турнір мае ўсе шанцы заслужыць у гэтай якасці.

**Юрый ФЕДАРАЎ**

# Клінікі для жывёлаў

61-й тысячы жывёлаў за першыя 11 месяцаў мінулага году спатрэбілася дапамога медыкаў-ветэрынараў. Пры гэтым гаспадар можа выбіраць, куды панесці свайго ўлюбёнца: у Мінску працуюць 9 раённых дзяржаўных ветэрынарных станцыяў, 2 прыватныя клінікі, і яшчэ сем ветэрынараў маюць ліцэнзіі на вядзенне прыватнай медычнай практыкі. Паслугі гэтыя платныя нават на дзяржаўных ветэрынарных станцыях, але, паводле галоўнага ветэрынара Мінска Язэпа Рамашкі, за лабараторныя даследаванні, прышчэпкі супраць шаленства і абслугоўванне інвалідаў дзяржаўныя ветэрынары грошай пакуль не бяруць.

Адмысловая для братоў нашых меншых у горадзе існуе рэнтген-кабінет і адзіны на ўсю Беларусь апарат ультрагукавога даследавання (УГД), прычым кошты на дыягностыку ім не саступаюць «чалавечым» – 4,5 тысячы рублёў. Таксама, як і для людзей, для жывёлаў працуе кругласутачная хуткая дапамога (тэл. 226-25-83), і бывае, што толькі за адну ноч дзяжурная каманда атрымлівае да 16 выклікаў.

Паводле Язэпа Рамашкі, з інфекцыйнымі захворваннямі (акрамя мікраспарыі) у межах сталіцы ўсё спакойна. А вось гэтая грыбковая інфекцыя сёлета знойдзена ў 180 сабак і 300 кошак. Лячыць яе досыць накладна, таму, калі хвароба ў запушчанай форме, медыкі раяць жывёліну ўсыпіць, але апошняе слова застаецца за гаспадаром.

Шаленства было зафіксавана ў Мінску сёлета толькі аднойчы; вінаваўцай ягонага з'яўлення стаў янот, якога жыхар сталіцы злавіў у Браслаўскім раёне. Пасля таго як янот укусіў чалавека за палец, яго ўсыпілі. Дарэчы, пакусы чалавека жывёламі – гэта толькі адна з прыкмет шаленства, і, каб хваробу не прапусціць, медыкі мусяць пасля кожнага такога здарэння праверыць жывёліну двойчы. На гэтым губляецца шмат часу, бо прычыны нападаў жывёлаў на чалавека бываюць рознымі, і з 2 тысяч правераных жывёлінаў сёлета толькі 84 кошкі і сабакі трапілі ў каранцін з падазрэннем на шаленства.

У сваёй кватэры чалавек не можа ўтрымліваць больш за дзве жывёліны. На думку галоўнага ветэрынарнага ўрача сталіцы, такое абмежаванне проста неабходнае, і любому аматару жывёлаў двух гадаванцаў павінна быць дастаткова. А калі чалавек жыве разам з 23 кошкамі – з ім, мусіць, ужо нешта не тое, і, каб не перашкаджаць спакойна жыць сваім суседзям, ён павінен ад «звышнарматыўных» пазбавіцца. Хутчэй за ўсё гэта значыць – выкінуць іх зноў на вуліцу, адкуль іх і падабралі, бо пакуль у Мінску няма ні прытулку, ні гатэлю для кошак і сабак. Усё гэта запраектавана ў пункце прыёму і ўтрымання жывёлаў, які будуецца па вуліцы Гурскага. Але там будоўля цягнецца ўжо не адзін год.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

# Як стаць бамжом?

## *Інтэрв'ю з антрапалагам Фэдэрыка Банадона, які год жыў сярод бамжоў. Досвед выкладзены ім у кнізе «Імя — бомж»*

«Нам даюць адкіды. Заключаецца штосьці кшталту пагаднення з вялікімі харчовымі фабрыкамі, якія за паўцаны аддаюць нам няякасныя прадукты, што павінны былі выкінуць. Такім чынам яны маюць неблагі прыбытак на рэчах, за якія заплачана паўцаны. Яны на нас зарабляюць! Беднасць можа быць бізнесам, ведаеце?» Гэтыя абвінаваўчыя словы належаць Карла, і гэта толькі адно са сведчанняў, сабраных у Рыме антрапалагам Федэрыка Банадона.

***– Пойдзем ад Карлавай заявы. Беднасць – гэта бізнес?***

– Бывае і так, але найперш гэта стан асобы. Акрамя бедных ёсць і тыя, хто ім дапамагае. Ёсць тыя, хто займаецца гэтым ад шчырага сэрца, а ёсць і тыя, хто спекулюе на гэтым, як і ва ўсіх іншых сферах жыцця. Кажучы так, я не веру ў маніхейскае сцвярджанне, што бедныя – гэта ахвяры, а тыя, хто ім дапамагае, – каты. Абінавачанне з боку Карла можа мець вялікае сімвалічнае значэнне, але ў кожным выпадку, ці прадае фірма бракаваныя прадукты па зніжаных цэнах, ці проста дорыць іх, яна робіць сацыяльна карысную справу.

***– Некаторыя сцвярджаюць, што бамжамі робяцца паводле свядомага выбару. Гэта так?***

– Марка, адзін з герояў маёй кнігі, казаў: «Вуліца – гэта пекла. І ніхто не выбера жыццё ў пекле». Хто сцвярджае, што свядома выбраў такое жыццё, робіць гэта постфактум: гэта своеасаблівая спроба змяніць, рэканструяваць рэальнасць, каб было прасцей у ёй адаптавацца.

***– Хто ён – бомж?***

– Гэта чалавек, які вымушаны спаць, марыць, спраўляць свае першасныя патрэбы, займацца сексам, карацей, жыць пад поглядамі мінакоў 24 гадзіны ў суткі. Але не ўсе падпадаюць пад такое вызначэнне. Бомж, якога адрознівае сіндром назапашвання, – гэта вяршыня айсбергу шматслойнага свету бадзягаў.

***– Чаму сярод іх павялічваецца колькасць моладзі?***

– Сям'я (і, адпаведна, яе роля як сацыяльнага амартызатара) знаходзіцца ў крытычным стане. Італьянская сістэма забеспячэння дабрабыту яшчэ не выпрацавала сродкаў культуры рэфармавання, і моладзь, не маючы перспектыў (прычым не толькі ў працы) і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні, адколваецца ад грамадства. Некаторыя перажываюць гэты крызіс на вуліцы, а калі спрабуюць вярнуцца, вельмі часта не знаходзяць сваёй сям'і – яе ўжо не існуе.

***– Павялічваецца колькасць сталовак і начлежак. Ці здаецца вам гэта добрым выйсцем з сітуацыі?***

– На дадзены момант яны могуць гарантаваць прынамсі рэалізацыю першасных патрэбаў чалавека. Але гэтага мала. Неабходныя цэнтры працы з гэтымі людзьмі, размешчаныя па ўсёй краіне, і каб кіравалі імі людзі, якія ўмеюць працаваць з маргінальнымі асобамі, што жывуць не так, як астатняе грамадства.

***– У першых шэрагах тых, хто займаецца бадзягамі, – царква. Што Вы пра гэта думаеце?***

– Гістарычна так заўсёды было. З аднаго боку, гэтым павінны займацца дзяржаўныя ўстановы, але, з іншага боку, бясспрэчна, што менавіта царква ўмее гэта рабіць. Аднак неабходна шчыльная супрацоўніцтва паміж усімі, хто займаецца праблемамі бамжоў. Органы гарадскай адміністрацыі павінны клапаціцца пра тое, каб не было неабходнасці выходзіць на вуліцу, і, пераадолеўшы ўсе існыя сацыяльныя стэрэатыпы, працаваць з тымі, хто ўжо стаў бамжом.

***– А што можа зрабіць просты гараджанін?***

– Марка казаў, што часта гараджане непакояцца пра бамжоў значна больш, чым улады. Часам яны выходзяць на вуліцу ў тры гадзіны ночы, будзяць бамжа, які толькі што заснуў, перамогшы холад, што даводзіць да галюцынацыяў, і прапаноўваюць кавы! Прынесці гарачай ежы і коўдру – гэта ўжо пэўны крок. Але ў той жа час гэта вельмі абмежаванае ўяўленне пра праблемы чалавека, які жыве на вуліцы. У Італіі такая добраахвотная дапамога вельмі распаўсюджаная, але ўнёсак гараджанаў павінен грунтавацца на праектах, якія бяруць пад увагу як фізічныя, так і псіхалагічныя патрэбы бяздомных. Нельга ставіць эксперыментаў на гэтых людзях. Тут трэба глыбокае веданне гэтай з'явы і асабістая пакора. Лічыць, што бомж можа задаволіцца бутэрбродам і коўдрай – значыць не паважаць асобы іншага чалавека і прэтэндаваць на веданне дакладных рэцэптаў.

***– Вы жылі разам з бяздомнымі. Што Вы вынеслі з гэтага досведу?***

– Незвычайная чалавечнасць і прага жыць рэзка кантрастуюць з дэградуючым кантэкстам вуліцы. Насуперак агульпрынятым уяўленням, людзі, што жывуць у такіх умовах, маюць свае пачуцці і сваю непаўторнасць.

**Il Manifesto (Італія)**




Фота REX/ProMedia

# Халодны дэсерт

*Паводле апытання, праведзенага сярод наведвальнікаў сталічных крамаў, большасць менчукоў аддае перавагу марожанаму на палачцы альбо ў брыкетыку, шакаладная глазур і разнастайныя дадаткі – разынкі, арэхі і карамель – у марожаным толькі павялічваюць людскую любоў да яго.*

Менчукі дастаткова кансерватыўныя, а таму, выражыўшы паласавацца лёдамі, у 60% выпадках сярод іншых выбіраюць знаёмы ім з дзяцінства смак – марожанае, якое вырабляе Мінскі халадакамбінат №2. Фабрыка марожанага на ім з'явілася ў 1953 годзе, і з той пары на ейным пламбіры за 20 капеек і на марожаным у шакаладнай глазуры за 28 капеек у савецкія часы вырасла ўсе пакаленні сталічных жыхароў.

Іншы і досыць важны фактар народнай любові да айчынных лёдаў – іхняя натуральнасць. Калі меркаваць па дадзеных, указаных на ўпакоўках разнастайных лёдаў, якімі ўсыпаныя паліцы нашых крамаў, складаецца ўражанне, што беларускія вытворцы засталіся адзінымі, хто замест разнастайных прапанаваных «Е» кладзе ў марожанае тое, што там і мусіць быць: малако, масла, цукар, ваду, ванілін. Тыя ж расейцы, дарэчы, ужо налаўчыліся збегаць на выдатках: напрыклад, эканомячы на свежым малацэ, абыходзяцца замест яго ў вырабе марожанага толькі сухім.

Па словах намесніка дырэктара па камерцыйных пытаннях Мінскага халадакамбінату № 2 Ніны Кухарэнка, насамрэч на ўсім свеце вытворцы марозіва, «перахварэўшы» ўжо на розныя сінтэтычныя дадаткі, паступова вяртаюцца да натуральнасці ўсіх кампанентаў свайго халоднага ласунку. Спажыўца, разбэшчанага рознымі формамі марожанага, смакамі і разнастайнымі дадаткамі, цяпер сапраўды можа здзівіць толькі што даўно ўжо забыты натуральнасцю гэтага прадукту.

Каб задаволіць попыт аматараў халоднага дэсерту, штодзённа ў гандлёвую сетку беларускай сталіцы трапляе па 5-10 тонаў марожанага, а ў летнюю спякоту менчукі за дзень з'ядаюць да 44 тонаў лёдаў Мінскай фабрыкі марожанага. Такім чынам, каб забяспечыць іхнія жаданні, фабрыка ў 2001 годзе выразбіла 5,5 тысяч тонаў марожанага 30 найменняў. Па словах Ніны Кухарэнкі, гэта не дужа вялікія аб'ёмы, бо раней марожанага елі больш і даводзілася выпрацоўваць на год і па 12 тысяч тонаў.

У наш аўтаматызаваны час выраблядь марожанае не складана. За выключэннем эскімо, бо яно патрабуе ручной працы. Сумесь для марожанага замешваецца ў адмысловых рэзервуарах па 2 тоны, дзе тэмпература не павінна перавышаць 6 градусаў вышэй за нуль. Пасля замесу яна фільтруецца, насычаецца кіслародам і ахаладжваецца. Абавязкова з кожнага замесу два разы бяруцца аналізы на ўтрыманне тлушчу і сухіх рэчываў. Добра зробленае марожанае мусіць быць аднародным і не павінна хрусцець на зубах.

У асартыменце любой крамы можна налічыць вялікую колькасць розных найменняў лёдаў, аднак пад усімі тымі назвамі схаваныя нязменныя класічныя чатыры віды марожанага: фруктовы лёд, малочнае, вяршковае і пламбір, якія адрозніваюцца паміж сабой па тлустасці. Усё астатняе – гэта толькі варыяцыі гэтых чатырох відаў марозіва пры дапамозе араматызатараў, розных напаўняльнікаў і глазуры.

Глазур на марожаным можа быць альбо тлушчавай, альбо хрусткай. Першую на фабрыцы марожанага выпрацоўваюць самастойна з тлушчу, какавы і цукру, замешваючы іх у вялікіх рэзервуарах. А хрусткую закупляюць і потым растапляюць, каб пакрыць ёю лёды. Тут нашае марожанае адметнае тым, што, акрамя шакаладнай глазуры, ніякай іншай яно не прызнае. І калі па ўсім свеце разнастайныя фруктовыя глазуры – гэта ўжо мінулы дзень, то на нашай фабрыцы марожанага да іх засваення нават яшчэ і не прыступалі. Па сваёй узбітасці знаёмае з дзяцінства марожанае таксама далёка яшчэ «не дацягвае» да замежнага. Асабліва гэта відавочна чамусьці ў марожаным на палачцы, якое іншыя вытворцы якраз-такі і робяць самым мяккім. Грызці такую «цаглінку на палачцы» задавальнення мала, аднак у любое надвор'е яго можна данесці да хаты, не хвалюючыся, што растане.

Натуральна, што ўсе недагляды нашых вытворцаў пацішку скарыстоўваюць замежныя канкурэнты і напаўняюць сваім таварам беларускі рынак. Напрыклад, раней наадварот на расійскі рынак траплялa да 40% прадукцыі Мінскай фабрыкі марожанага. Расійскія вышталцонасці з марожанага, хай і саступаючы па якасці нашым, аднак сваёй разнастайнасцю адцягваюць да сябе частку пакупнікоў-ласуноў. Каб пераламіць гэтую тэндэнцыю, Мінскі халадакамбінат №2 вырашыў заняцца ўласным іміджам і разнастаіць сваю прадукцыю. Так, на ўпакоўцы вырабаў хуткім часам мусяць размясціцца снегавікі – новая эмблема прадпрыемства. Зменіцца дызайн усіх упаковак марожанага, а таксама на паліцах крамаў з'явяцца яго новыя формы і смакі.

**Алена ЛАБАНАВА**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1106 Нумар падпісаны ў друк 8/01/2002 (15:00) Наклад – 8.150